PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 37 (2157) Год XLII Беласток 14 верасня 1997 г. Цана 1 зл.



## У нумары



# „Хай жыве беларуская песня"

**Настаяцель прыхода ў Вэрстоку на Успенне заклікаў людзей належна прывітаць дастойных гасцей у недалёкіх Дубічах-Царкоўных. Бацюшка ў Ласінцы прасіў сваіх прыхаджан, каб на гэтую акалічнасць прыгажэй апрануліся. Янка Сычэўскі на фэсце ў Ласінцы дзякаваў праваслаўным святарам „за тое, што беларуская культура вам не чужая і, што інфармавалі пра наша сённяшняе свята".**

Прэзідэнт Аляксандр Кваснеўскі і прэм'ер-міністр Уладзімеж Цімашэвіч праехаліся па ўсходняй Беласточчыне ў суботу 30 жніўня. Пачалі свой візіт у Бельску-Падляшскім, дзе паглядзелі збудаваны фірмай „Унібуд" дом для пацярпеўшых ад паводкі. Затым пабывалі ў Кляшчэлях, Дубічах-Царкоўных, Махнатым, Чыжах. У Гайнаўцы адкрылі ачышчальню сцёкаў, а ў Нараўцы паглядзелі новазбудаваную школу. Перад тым, як падацца ў Беласток на сімвалічнае адкрыццё першага ў гісторыі горада універсітэта, высокія госці завіталі яшчэ ў Ласінку, на беларускі народны фэст.

Там высокіх гасцей выглядалі ўжо ад другой гадзіны. Людзі круціліся і гадалі, якое заняць месца, каб усё акуратна бачыць. Раз-пораз высоўвалі галовы за ўпрыгожаны партрэтамі шматлікіх левых і праваслаўных кандыдатаў у парламентарыі плот, ці не відаць чаканых машын. Між натоўпам увіхаліся маладыя мужчыны ў чорных акулярах і раздавалі выбарчыя лістоўкі ды тоўстыя буклеты пра дасягненні чатырох гадоў знаходжання СЛД пры ўрадзе: — *О, колькі напісалі, як ім стала лепей жыць,* — заўважыў высокі трыццацігадовы мужчына, гартаючы тыя паперы.

Калектывы, якія якраз не выступалі на сцэне, выстраіліся ад брамы ў два шпалеры. Усе члены — больш за трыццаць асоб — калектыву „Стрэчанне" з Мазыра таксама круцілі ў руках каляровыя лістоўкі. — *За каго будзеце галасаваць?* — спытаўся я хітра прыгожую дзяўчыну са скрыпкай. — *Ой, я ж нават не ведала, што гэта нешта выбарчае,* — заўсміхалася яна ў адказ, але буклет затрымала, відаць на памятку.

— *Рукі забаляць так доўга трымаць хлеб,* — заўважыў колішні наш журналіст Міхась Хмялеўскі, паглядаючы на засяроджаную кіраўнічку Нарваўскага асяродка культуры Ірэну Шастай.

Сірэны завылі ў 14.56. Натоўп кінуўся да брамы. — *Тата!* — плакаў чатырохгадовы хлопчык, пакуль з тлуму не вырваўся мужчына і не падхапіў яго на рукі.

— *Z ogromną przyjemnością i wielkim wzruszeniem mam zaszczyt powitać przybyłych gości,* — гаварыў са сцэны войт Нарваўскае гміны Ян Іванюк, а старшыня БГКТ Янка Сычэўскі падкрэсліў, што гэтыя найважнейшыя ў дзяржаве асобы дбаюць пра культуру беларусаў і іншых нацыянальных меншасцей. У апошніх гадах, паводле спадара Сычэўскага, наглядаецца менавіта вялікі росквіт беларускай культуры на Беласточчыне. На заканчэнне свайго кароткага слова пажадаў ён гасцям *dużo odporności psychicznej w wypełnianiu trudnych obowiązków*.

Калектывы сталі мяняцца як у калейдаскопе: адна песня і са сцэны, адна песня і са сцэны. І ўжо ў 15.27 вядучая канцэрт Валянціна Ласкевіч гаварыла:

— *Bardzo ciężko nam się rozstać z drogimi gośćmi. Bardzo pragnę podziękować, że znaleźliście w tak napiętym programie chwilę dla nas. Ludzie ziemi białostockiej wiedzą, co wam zawdzięczają. W imieniu wszystkich tu obecnych bardzo dziękuję, że możemy mówić po białorusku, śpiewać w swoim języku.* (Між тым, падчас прысутнасці гасцей спадарыня Ласкевіч ні слова не сказала са сцэны па-беларуску.)

Прэзідэнт Кваснеўскі на развітанне выказаў радасць, што на Беласточчыне гучыць беларуская песня, што маладыя людзі вывучаюць беларускую мову. А прэм'ер Цімашэвіч са сцэны ўсклікнуў: *Хай жыве беларуская мова! Хай жыве беларуская песня!* І паімчалі.

**Мікола Ваўранюк**

*Фота Сяргея Грынявіцкага*

# Мы прачыталі

*Budżet państwa przecieka jak zepsuty kran. Szerokim strumieniem wylewają się z niego pieniądze zmarnowane albo też wydane nie na to, na co były przeznaczone. Aby otrzymać pieniądze wystarczy wypowiedzieć hasło „ochrona zdrowia”, „ochrona środowiska”, „polskie rolnictwo”. Jeżeli za inwestorem stoi odpowiednio silna grupa nacisku, dotacje można otrzymać co rok nie precyzując jaki będzie zakres inwestycji, jej koszt, okres realizacji. To są reguły, jakie rządzą rozdawnictwem pieniędzy, przeznaczonych na inwestycje centralne, z których sporą część prowadzi się nielegalnie. Niekiedy przez dwadzieścia lat dotuje się budowy szpitali lub oczyszczalni ścieków, które nie mają ani kosztorysów, ani rzetelnych projektów. Jak kto politycznie silny, to — jak w socjalizmie — buduje z rozmachem i bez sensu. Jako spadek po socjalizmie pokutuje myślenie, że wszelkie nasze potrzeby najlepiej zaspokoi państwo. Tymczasem każda rzecz za którą płaci budżet, naszymi przecież pieniędzmi, jest droższa. Kombajn dofinansowany przez Ministerstwo Rolnictwa kosztował 474 tys. zł., a za taki sam na wolnym rynku płacono 246 tys. Alternatywa jest jedna: urzędnik był albo skorumpowany, albo głupi. Państwowy Fundusz Rehabilitacji Osób Niepełnosprawnych dotowany z budżetu, dysponuje pieniędzmi w sposób, który od lat bulwersuje kontrolerów NIK. PFRON w ubiegłym roku dysponował takimi funduszami, że mógł sobie pozwolić na przekroczenie wydatków na planowane zagraniczne podróże służbowe o 740 procent. Pracownicy jeździli najczęściej do Hiszpanii, Austrii, USA. Niektórzy za ten sam wyjazd dwa razy żądali i otrzymywali zwrot kosztów podróży.*

*Za władzą idą pieniądze i stanowiska. Nie tylko w ministerstwach, także w funduszach celowych jak PFRON, ZUS czy inne, które obsadzane są według klucza partyjnego. To świetne synekury dla działaczy, więc ewentualne obcięcie dotacji partie traktują jako ograniczenie ich politycznej siły.*

*Polityka, nr 34*

* * *

*W tym roku znów zapowiada się urodzaj buraków. Nadwyżkę cukru trzeba więc będzie wyeksportować. Na świecie cena sprzedaży tony cukru wynosi 1 180 zł. W Polsce minimalna cena zbytu w tym roku wyniesie 1 500 zł. Tę różnicę trzeba będzie pokryć środkami z budżetu państwa. W praktyce oznacza to jednak, że zapłacą za to konsumenci. Pieniądze na eksport rząd weźmie bowiem z konsumenta, który będzie musiał drożej płacić za krajowy cukier. Zachodzi paradoksalna sytuacja. Mimo, iż cukru jest coraz więcej niż potrzebują konsumenci, cena towaru idzie w górę.*

*Kurier Poranny, nr 199*

* * *

*Ludowcy zrobili kolejny krok w kierunku uczynienia życia publicznego bardziej śmiesznym. Zażądali odwołania rządu, w którym mają połowę swych ministrów. Następnie prezes Pawlak wyraził zgodę „pod pewnymi warunkami” na głosowanie przeciwko własnemu wnioskowi. Okazuje się, że w tej chwili posłowie mają podejmować decyzje, jak na przykład, o skupie zbóż. Podział na władzę wykonawczą i ustawodawczą stracił zupełnie sens. Jutro Sejm może zacząć wydawać rozkazy wojskowym, zatwierdzać kontrakty gospodarcze z pominięciem ministrów.*

*Życie, nr 195*

* * *

*PSL wychyla się z rządowych lancii i puszcza oko do chłopskich wyborców: wasze kłopoty to nie nasza wina. Po czterech latach sprawowania władzy, na kilka dni przed wyborami PSL udaje, że z rządami nie ma nic wspólnego.*

*Gazeta Wyborcza, nr 193*

На наступнае такое кабарэ трэба чакаць чатыры гады.

* * *

*Lekarze w USA pracują starannie nie tylko dlatego, że boją się procesów sądowych. Boją się, że człowiek, który mógłby żyć, umrze. Tam lekarz nie poddaje bez walki choroby nowotworowej, ani żadnej innej. W Stanach jest nie do pomyślenia, by pacjent, który przychodzi do lekarza z bólem w klatce piersiowej, usłyszał, że nic mu nie jest i był odsyłany do domu. Ponieważ zawał jest chorobą, która zabija, to każdy sygnał wskazujący na taką możliwość traktuje się niezwykle poważnie. Jeśli ktoś wzywa karetkę albo zgłasza się na izbę przyjęć z bólem, następuje pełna mobilizacja. Póki badania nie udowodnią, że jest to coś innego, postępuje się z takim chorym, jakby miał zawał.*

*Gazeta Wyborcza, nr 199*

Напрыклад, у Беластоку ў жніўні амаль усе лекары былі ў водпуску і прымалі хворых толькі ў прыватных кабінетах. А калі вярнуліся з водпуску ў свае паліклінікі, менш заможным пацыентам аб'яўляюць найчасцей, што яны зусім здаровыя. Як у рэспубліцы Сенегал.

* * *

*З моманту набыцця краінай незалежнасці ў 1991 годзе ўзровень жыцця ў Беларусі істотна знізіўся, — заяўляе*

*Голас Радзімы, н-р 33*

Аказваецца, што ўсім беларускім няшчасцям вінаваты кароткі перыяд незалежнасці. Добра, што ўжо сконччыўся!

# З мінулага тыдня

**Дырэкцыя Фонду Полькуль** (Polcul Foundation) прысвоіла 17 вылучэнняў асобам, якія ангажуюцца ў рух культуры і пабудовы адкрытага грамадства ў Польшчы і супрацоўніцтва з яе суседзямі. У ліку ўзнагароджаных апынуўся **Хведар Нюнька** з Вільні, які вядзе дзейнасць на карысць польска-беларуска-літоўскага прыбліжэння.

**Сяргей Юрчанка** і **Уладзіслаў Юндзюк** — двое беларускіх апазіцыянераў, якія выдавалі ў Віцебску незалежную газету „Вольнае слова”, атрымалі палітычнае прыстанішча ў Чэхіі. Выехалі яны з Беларусі, калі імі сталі цікавіцца супрацоўнікі КДБ пасля перадруку артыкула **Зянона Пазьняка**, у якім беларускія ўлады абвінавачваліся ў супрацоўніцтвае з расейскімі спецслужбамі. Атрымаць палітычнае прыстанішча ў Польшчы жадаюць таксама каля дзесяці чалавек, між іншым жонка З. Пазняка і **Янка Чурыловіч**, які выкрыў у Брэсце фальшывыя бюлетэні на мінулагоднім прэзідэнцкім рэферэндуме. Год таму такое ж прыстанішча атрымалі ў ЗША Зянон Пазьняк і **Сяргей Навумчык**, а ў Францыі — **Уладзімір Палупанаў**, культурны аташэ беларускага пасольства.

**Дзень ветэрана**, які супадае з гадавінай выбуху II сусветнай вайны, ужо другі раз адзначаўся ў Беластоку. Падчас урачыстай сустрэчы беластоцкі ваявода **Анджэй Гаеўскі** і міністр па справах ветэранаў **Адам Дабраньскі** ўзнагародзілі ветэранаў медалямі.

**Новы навучальны год** пачало на Беласточчыне 140 тысяч школьнікаў, а іх выхаваннем і навучаннем займаецца 12 тысяч настаўнікаў. Падчас ваяводскай інаўгурацыі, якая адбылася ў **Нараўцы**, мітрапаліт Варшаўскі і ўсяе Польшчы **Васілій** сказаў: „Вам трэба цешыцца такім прыгожым будынкам. Ад вас залежыць, як скарыстаеце гэты дар Божы ды намаганні вашых бацькоў і грамадскіх дзеячаў, якія дапамаглі ў ажыццяўленні гэтай вялікай справы” *(рэпартаж — с. 9)*. Куратар **Тадэуш Калюта** паведаміў, што гэты год прынясе многа змен у сувязі з праграмнай рэформай, а выпускнікі пачатковых школ у будучым годзе будуць здаваць тэсты замест уступных экзаменаў у сярэднія школы.

**Татары** адзначалі юбілей 600-годдзя пасялення іхных продкаў на землях Вялікага княства Літоўскага. З гэтай нагоды Саюз польскіх татараў і Мусульманскі рэлігійны саюз у РП арганізавалі ў Беластоку папулярна-навуковую канферэнцыю, рэлігійныя святкаванні і ўрачыстую вечарыну ў Драматычным тэатры.

**У Гайнаўцы** здадзена ў карыстанне сучасная ачышчальня сцёкаў, якая каштавала 8,5 млн. зл. Да гэтай пары гарадскія сцёкі забруджвалі суседнюю Белавежскую пушчу. Цяпер аўтаматызаваная і высокаэфектыўная ачышчальня вырашыць экалагічныя праблемы горада і пушчы да 2015 года.

**У Бельску-Падляшскім** быў разыграны футбольны матч паміж мясцовай камандай Тур і беластоцкай Ягелоніяй. Перамаглі госці вынікам 0:3 (да перапынку 0:2). Даход з прададзеных білетаў і ахвяраванняў сабраных у скарбонкі перададзены быў пацярпеўшаму ад паводкі дзіцячаму дому ў Клодзку.

**У Агародніках** ля польска-літоўскай мяжы на аўтамашыннай біржы двое грамадзян Рэспублікі Беларусь страцілі 2,5 тысячы долараў. Ашукалі іх трое рускамоўных мужчын, якія падмянілі іхныя 123 купюры вартасцю 2700 дол. на 123 аднадоларавыя банкноты.

# Весткі з Беларусі

**Візіт у справе журналістаў**

27 жніўня адбыўся візіт міністра замежных спраў Расейскай Федэрацыі Яўгена Прымакова ў Менск. Падчас сустрэчы з прэзідэнтам Аляксандрам Лукашэнкам расейскі госць абмяркоўваў справу вызвалення журналістаў ОРТ. У яе выніку, па даручэнні прэзідэнта, у Савеце бяспекі адбылася нарада, на якой разглядалася пытанне аб ходзе расследавання крымінальнай справы ў адносінах да журналістаў ОРТ — грамадзян Беларусі, затрыманых на беларуска-літоўскай мяжы. Вынікі нарады маюць быць прадстаўлены прэзідэнту Беларусі. ОРТ паведаміла, што прэзідэнт Лукашэнка намякнуў аб магчымасці хуткага вырашэння гэтай справы, калі тэлекампанія публічна перапросіць беларускага прэзідэнта за крытыку ягонай асобы. Аднак кіраўніцтва ОРТ не намерваецца перапрашаць Лукашэнку.

**Маўклівая дэманстрацыя**

Беларускі паэт Славамір Адамовіч зашыў сабе вусны звычайнай ніткай і іголкай, пратэстуючы такім чынам супраць абмяжоўвання свабоды слова і дэмакратычных правоў у Беларусі. Жудаснай сцэне, якая адбылася падчас дэманстрацыі, сарганізаванай у Менску мясцовымі журналістамі, спадарожнічалі крыкі і плач жанчын. Частка ўдзельнікаў акцыі мела на сабе турэмную вопратку, некаторыя неслі перад сабой краты або трымалі рукі на карку.

**Размарожванне Фонду Сораса**

Беларусь зацікаўлена ў прадаўжэнні дзейнасці ў рэспубліцы Фонду Сораса, — паведаміў міністр замежных спраў Іван Антановіч. Магчыма ўжо ў верасні рахункі фонду будуць размарожаны на шэсць месяцаў, каб яго работнікі змаглі прыступіць да рэалізацыі некалькіх гуманітарных праектаў.

**Новая мадэль аўтобуса**

На Менскім аўтазаводзе створаны эксперыментальны ўзор сучлененага аўтобуса „МАЗ-105”. Ён будзе даўжэйшы на паўтара метра чым прывычны „Ікарус” з гармонікам. Адпаведна павялічыцца на дваццаць чалавек і яго ўмяшчальнасць. Больш за 80% камплектуючых гэтай мадэлі выпускаецца на беларускіх прадпрыемствах. У пачатку верасня эксперыментальны ўзор быў прадстаўлены ў Рэспубліканскім выставачным цэнтры, затым чакае яго некалькі месяцаў лабараторных дарожных выпрабаванняў, ад вынікаў якіх будзе залежыць тэрмін здачы новай мадэлі ў эксплуатацыю.

**Спад нараджальнасці**

У Беларусі значна знізілася нараджальнасць, з 1986 года прыкладна на 40-45%. Сёння на кожных сто родаў прыходзіцца 160 абортаў. Апошняя лічба трохі ніжэй чым у мінулыя гады, але ўсё роўна вельмі высокая. Спецыялісты лічаць, што прычыны такога становішча трэба шукаць у эканамічнай нестабільнасці грамадства.

**Фальклорны фестываль**

У Магілёве адбыўся міжнародны фальклорны фестываль, прысвечаны 125-годдзю з дня нараджэння народнага мастака СССР і РФССР Вітольда Бялыніцкага-Бірулі. У песенным свяце прынялі ўдзел ансамблі з Польшчы, Бранскай, Смаленскай і Цвярской абласцей Расеі, з горада Трускаўца, а таксама мясцовыя мастацкія гурты. Калектывы паказалі яшчэ гала-канцэрт для ўдзельнікаў міжнароднага пленэру жывапісу, таксама прымеркаванага да юбілею знакамітага мастака.

**Кветкавая выстава**

Усе фарбы вясёлкі былі сабраны ў Касцюковічах. Тут па ініцыятыве мясцовага Краязнаўчага музея праведзена выстава садовых і пакаёвых кветак, удзел у якой прынялі кветкаводы-аматары, арганізацыі і школы горада. Райвыканкам падтрымаў правядзенне такога свята прыгажосці і нават выдаткаваў грошы на заахвочванне пераможцаў.

**Ваўкі-разбойнікі**

Не даюць спакою апошнім часам шэрыя разбойнікі некаторым гаспадаркам Драгічынскага раёна. Так у калгасе „Чырвоны партызан” ваўкі задралі восем цялят, пяць жарабят і шмат сабак. Пагаспадарылі яны і ў калгасе „Запаветы Леніна”, дзе ўкралі дваіх цялят. Праўленне ўсур'ёз занепакоілася аб захаванасці статку і вырашыла прысудзіць каштоўны прыз таму, хто першы прынясе воўчую шкуру.

## Неўзабаве ў „Ніве”

- Бульбяное жніва — рэпартаж Міхала Мінцэвіча.
- Яўген Чыквін абвінавачвае „Ніву” ў антыбеларускай дзейнасці.

# Пабачыць і памерці ад шчасця

Дарога ў Ласінку напамінала народнае шэсце.

— То і ты ідэш встрэчаті нашого прэзідэнта? — чулася замест прывітання.

У радыусе дзесяці кіламетраў апусцелі вёскі і хутары. Сярод мора народу сустракаліся жыхары Беластока, Гайнаўкі, Нарвы. Прыімчалі нават жыхары Кленік, Чыжоў, якім не хапіла візіту дастойных гасцей у сваёй гміне.

— Колькі жыву, то ў Ласінку прэзідэнт не прыязджаў, — дзівавалася бабуля Наталля Пракапюк з Катлоўкі і прарочыла: — То знак, што нешта важнае здарыцца.

І ў Ласінцы прыгадалі легенду пра Напалеона, які ідучы на Маскву заначаваў на старой плябаніі. Марай тутэйшага грамадства з'яўляецца пабудова новай школы. Не дзіва, што ў вёсцы закіпела ад прадпрымальнай мітусні. Ужо раніцай мясцовыя пажарнікі спынялі грузавікі і строга загадвалі шаферам: „Сёння толькі да другой гадзіны праз нашую вёску можаце ездзіць". Вяскоўцы традыцыйна пабялілі парэбрыкі. У крамах забаранілі продаж гарэлкі. Праўда, сухі закон абавязваў толькі да шаснаццатай гадзіны. Не падвялі згаданыя пажарнікі. Аддана сачылі яны за парадкам. Пэўна і таму ніхто не асмеліўся нааракаць перад знакамітымі гасцямі пра праблемы сялян.

Фэст пачаўся паводле плана. Але спевакі і прамовы палітыкаў і культурных дзеячаў занадта не цікавілі народ.

— Яны то і добра спяваюць, — кажа дзяўчына з Ласінкі. — Мне толькі каб прэзідэнта пабачыць! Усё іншае гэта...

Праўда, у час выступлення сімпатычных „Лісічак" старэйшыя калектывы непадалёк сцэны праводзілі рэпетыцыі, каб у поўнай красе прывітаць песняй гасцей. І калі паявіліся доўгачаканыя прэзідэнт РП Аляксандр Кваснеўскі і прэм'ер-міністр Владзімеж Цімашэвіч, натоўп замёр ад шчасця. Самыя бойкія юнакі пачалі лезці на дрэвы і з вышыні сачыць за незвычайным здарэннем. Як падказвае традыцыя, гаспадары прывіталі гасцей хлебам і соллю. Далей пайшло таксама паводле традыцыі — прывітанні, спевы, шмат сардэчнасцяў і слязлівае развітанне. Разгаварыўся і народ:

— Глядзі, Марысю, ён як голуб, бядняга, пасівеў, — гаварыла маючы на ўвазе прэм'ер-міністра Цімашэвіча жанчына. — Ён так за нашае *паньство* вавое.

Іншай удзельніцы фэсту не падабаліся чорныя акуляры прэзідэнта.

— Чаму ніхто не параіў яму зняць тыя акуляры, — хвалявалася цётка. — Як падменены выглядае. З такімі як у яго прыгожымі вачыма грэх у акулярах хадзіць!

— Буду галасаваць на Кваснеўскага, — кажа трыццацігадовая маладзіца з Гайнаўкі.

Свой выбар хоча яна здзейсніць у час набліжаючыхся выбараў у Сейм. Гутаркі пра палітыку разгарэліся з надзвычайным імпэтам, калі пачалі прадаваць доўгачаканае піўцо. Агульнанароднае гульбішча цягнулася да раніцы.

**Ганна Кандрацюк**
*Фота аўтара*



*Пасол Сяргей Плева і святары ў чаканні высокіх гасцей.*

# Пытанні

Прэзідэнт не часта бывае госцем на нашай зямлі. Тым большая падзея, калі тут прыязджае, ды яшчэ разам з прэм'ер-міністрам. Як заўважыў сам спадар прэзідэнт, пэўне ж у свеце такога не было, каб дзве такія высокія асобы адкрывалі ўрачыста ачышчальню сцёкаў у такім мястэчку, як наша Гайнаўка.

Апошнім акцэнтам прэзідэнцкага візіту была сустрэча з прадстаўнікамі беластоцкіх сродкаў масавай інфармацыі ў Радыё Беласток. Хто слухаў перадачу са студыі „Рэмбрант", той мог пераканацца, які ёсць узровень беластоцкай журналістыкі. Некалькі пытанняў вычарпалі вынаходлівасць супрацоўнікаў мясцовых сродкаў масавай інфармацыі. Дарма сам прэзідэнт пытаўся: „Ці ёсць яшчэ пытанні? Пан? Не? А можа пані? Таксама не? Дык я нешта яшчэ скажу". Пытанні абарваліся на тым, як адзін з журналістаў пацікавіўся што прэзідэнт думае пра стан польскага футбола. Каб не Лех Пілярскі з радыё і яго пытанні, сустрэча пераўтварылася б у вымушаны прэзідэнцкі маналог.

Чытачы „Нівы" пэўне ж запытаюць, чаму я не паставіў спадару прэзідэнту нейкага пытання, калі я такі разумны. Было ж пра што пытацца: пра стан беларускай нацыянальнай меншасці, пра польска-беларускія ўзаемадачыненні ды адносіны з прэзідэнтам Лукашэнкам у прыватнасці.

Не паставіў я ніякага пытання, бо ні мяне, ні нікога з маіх калегаў з „Нівы" і „Часопіса" на сустрэчу не запрасілі. Таксама, дарэчы, як на ўвесь візіт. А кажуць, што прэзідэнт прыехаў да беларусаў.

**Алег Латышонак**

# Нашы мястэчкі і вёскі

**Дубічы-Царкоўныя**

Сядзіба гмінных улад і Пакроўскага прыхода, драўляную царкву якога пабудавалі ў 1946 г. (папярэдняя згарэла ў 1944 г.). Упершыню ў пісьмовых крыніцах Дубічы згадваюцца ў 1532 і 1576 гадах. Першы элемент назвы вёскі выводзіцца ад дубоў, якіх многа расло калісьці ў ваколіцы, другі — ад наяўнасці ў ёй праваслаўнага храма. У XVII ст. (1664 г.) вёска карысталяся іншай назвай — Жарывэц (сёння так называецца толькі адно ўрочышча).

У 1661-1664 гадах Дубічы мелі 60 валок зямлі, а ў састаў прыхода ўваходзілі вёскі Грабавец, Чэхі-Арлянскія, Елянка, Сакі, Рутка, Тафілаўцы, Арэшкава, Вэрсток і Курашава. У 1804 годзе прыход налічваў 290 дамоў і 1 135 жыхароў. У наступных гадах колькасць жыхароў павялічвалася і скаладала: у 1847 г. — 1 213, 1875 г. — 1 484, 1884 г. — 1 833, 1901 г. — 2 016, у тым ліку 1 022 жанчын. На пачатку нашага стагоддзя ў прыходзе было 248 дамоў, а ў саміх Дубічах — 48 дамоў, у якіх жыло 169 мужчын і 169 жанчын.

Пасля вяртання з бежанства, якое адбывалася ў 1919-1922 гадах, нешматлікія ацалелыя вярнуліся ў знішчаныя ў 90% вёскі. Новая жыццё пачыналі яны ў збітых з галля і гліны зямлянках. Цяжка жылося на штораз меншых у выніку сямнейнага драблення ўчастках няўраджанай пясчанай зямлі, ва ўмовах антыбеларускай палітыкі II Рэчы Паспалітай. На гэтай тэрыторыі вялі дзейнасць ячэйкі Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі.

Вялікія страты нанесла насельніцтву нямецкая акупацыя 1941-1944 гадоў. Пасля вайны настаў перыяд развіцця і росту колькасці жыхароў. У 1988 годзе ў састаў гміны ўваходзіла 17 вёсак з 2 728 жыхарамі. З гэтай пары лік насельніцтва ў гміне падае: 1992 г. — 2 716, 1994 г. — 2 524, 1997 г. — 2 400 чалавек. У пачатковай школе вучыцца каля ста вучняў. У саміх Дубічах-Царкоўных зараз пражывае 252 жыхароў, у тым ліку 218 дарослых чалавек і 34 дзяцей і моладзі да 18 году жыцця.

У летні перыяд тысячы асоб карыстаюцца адпачынкам над вадасховішчам Бахматы на рацэ Арлянцы. У сядзібе гміны пракладзены водапровод, рамантуюцца дарогі. Цяперашні войт Анатоль Паўлоўскі карыстаецца сімпатыяй і пашанай жыхароў гміны. З Дубіч-Царкоўных паходзіць вядомы паэт Ян Чыквін — старшыя Беларускага літаратурная аб'яднання „Белавежа".

**Вэрсток**

Вёска ў Дубіцкай гміне, з прыхадской царквою Уздзвіжання Крыжа Гасподняга. Згадваецца ў пісьмовых крыніцах 1574 года. У 1661-1664 гадах належала Дубіцкаму прыходу, а звесткі пра будову новай царквы ў 60-х гадах XVIII стагоддзя сведачаць аб ранейшым існаванні свайго прыхода.

Цяпер у вёсцы налічваецца 68 жыхароў, у тым ліку 49 дарослых і 19 непаўналетніх. У 1993 г. вёска атрымала водапровод.

**Вітава**

Вёска заснавана да 1570 года. Паводле легенды, на правым беразе ракі Орлі (цяперашняй Арлянкі) падчас палявання ў Белавежскай пушчы начаваў князь Вітаўт, ад імя якога ўзяла сваю назва вёска (раней называлі яе Вітултова). У XVII ст. Вітава належала Бельскай зямлі.

У 1921 г. паўстала тут баявая група беларускай партызанскай арганізацыі. Пазней разгарнула дзейнасць Грамада, а затым КПЗБ. Падчас нямецкай акупацыі ў навакольных лясах дыслацыраваліся савецкія партызанскія атрады, з якімі садзейнічалі мясцовыя грамадоўцы і капээзбоўцы. Пасля вайны польскімі нацыяналістамі былі расстраляны солтыс вёскі Карней Васілюк і Цімафей Хмель, а вёсцы пагражала знішчэнне.

У 1992 г. у вёску быў праведзены водапровод. Жыве ў ёй 120 чалавек, у тым ліку 94 дарослых і 26 дзяцей і моладзі.

**Войнаўка**

У XVIII ст. вёска належала літоўскаму роду Войнаў. У 1631 г. падданыя ваўкавыскага старасты Пятра Войны, якія жылі над рэчкай Палічнай, зацярушылі агонь, у выніку чаго згарэла значная частка Белавежскай пушчы. Судовыя дакументы гэтага часу сведчаць аб існаванні вёскі.

Падчас гітлераўскай акупацыі Войнаўку часта наведвалі савецкія партызаны, якія стаялі ў Белавежскай пушчы. За супрацоўніцтва з партызанамі немцы двойчы расстрэльвалі мясцовае насельніцтва — 8 жніўня 1942 г. і 30 чэрвеня 1944 г.

Водапровод у Вітава быў праведзены ў 1993 г. Зараз жыве там 80 жыхароў, у тым ліку 72 дарослых і 8 непаўналетніх.

**Вілюкі**

Вёска распаложана ў палове дарогі з Доўгага Броду ў Войнаўку. У 70-х гадах славілася яна сваім кастапраўам, да якога прыязджалі людзі нават з аддаленых вёсак. Жыве тут 114-гадовая Дамініка Вілюк — найстарэйшая жанчына ўсходняй Польшчы.

У 1993 г. вёска атрымала водапровод. Жыве ў ёй 33 дарослых і 8 непаўналетніх.

**Елянка**

Вёска распаложана паабапал шашы з Кляшчэль у Гайнаўку. У 1880 годзе існавала тут царкоўная прыхадская школа. У 1901 г. было тут 20 дамоў, у якіх жыло 80 мужчын і 107 жанчын. Непадалёк вёскі выцякае рэчка Орля. На агульны лік 107 жыхароў, 88 чалавек — гэта дарослыя асобы, а 12 — дзеці і моладзь.

**Міхал Мінцэвіч**
*Фота аўтара*

# Даследчык Беласточчыны

**МІХАЛ КАНДРАЦЮК — кандыдат Беларускага дэмакратычнага аб'яднання ў Сенат Рэчы Паспалітай.**



Нарадзіўся ў 1934 годзе ў вёсцы Дубіны каля Гайнаўкі. Закончыў два філалагічныя факультэты Варшаўскага універсітэта; ад 1992 года — прафесар гэтага універсітэта. Сёлета ў чэрвені прэзідэнт Аляксандр Кваснеўскі назначае яго прафесарам звычайным.

Праф. Міхал Кандрацюк займаецца беларуска-польскімі, украінска-польскімі і балта-славянскімі моўнымі кантактамі. Даследуе беларускія, польскія і ўкраінскія гаворкі Беластоцкага рэгіёна. Надрукаваў 120 навуковых прац, у тым ліку — сем кніжак. У кніжцы „Nazwy miejscowe południowo-wschodniej Białostocczyzny" праводзіць аналіз каля 1700 назваў мясцовасцей з поўнай іх архіўнай дакументацыяй і формамі ў гаворках. Апрацаваў этымалогію кожнай назвы і прасачыў у архівах, як мяняліся яе запісы на працягу стагоддзяў.

Супрацоўнічае пры выданні „Atlasu gwar Wschodniej Białostocczyzny", якога паявілася ўжо шэсць тамоў. Прафесар Кандрацюк мае вялікі ўдзел у стваранні канчатковай яго формы, а сабраны ім матэрыял складае 40% працэнтаў усяго атласа. Аб гэтай працы пісаў ён у „Часопісе": „Былі гэта даволі цяжкія падарожжы... на сваім веласіпедзе, або пехатой, ідучы ад вёскі да вёскі пры любым надвор'і, пад сонцам і дажджом у спёку і холад... І рабілася гэта ўсё за невялікую плату і ў час чарговага адпачынку".

Навуковыя рэцэнзенты падкрэсліваюць грунтоўнасць, скрупулёзнасць і аб'ектывізм яго працаў. „Усе, хто з ім сутыкаўся, — напісаў пра праф. Кандрацюка ў „Народнай газеце" Генадзь Цыхун, — ведаюць яго не толькі як выдатнага вучонага, але і цудоўнага чалавека, патрыёта сваёй Беласточчыны, які шмат зрабіў для вывучэння не толькі мовы тамтэйшага люду, але і „мовы зямлі" — мясцовых назваў паселішчаў, урочышчаў, рэчак і ручаёў".

Быў ён адным з заснавальнікаў і віцэ-прэзідэнтам Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў. Апрача навуковадаследчыцкай працы, вядзе таксама дыдактычную. Быў ён кіраўніком лабараторыі беларускай мовы ў Інстытуце славяназнаўства Польскай акадэміі навук. З'яўляецца арганізатарам і кіраўніком беларускай філалогіі ў Беластоцкім філіяле Варшаўскага універсітэта (з кастрычніка — самастойны Універсітэт у Беластоку).

У Сенаце будзе выступаць за:

— усебаковае развіццё Беластоцкага рэгіёна і ахову яго натуральнага асяроддзя;

— палітычнае раўнапраўе ўсяго грамадства, нягледзячы на светапогляд кожнага чалавека;

— доступ да навукі, аховы здароўя, культуры і адпачынку;

— развіццё навукі і культуры;

— сацыяльнае забеспячэнне найслабейшых;

— выконванне дзяржаўнымі органамі прынцыпаў свабоды, правоў і абавязкаў чалавека і грамадзяніна, запісаных у Еўрапейскай хартыі правоў і свабоды.

*(платная аб'ява)*

# Гміна — гэта людзі з зямлёй

**ЯН ТАПАЛЯНСКІ — кандыдат Беларускага дэмакратычнага аб'яднання ў Сенат Рэчы Паспалітай.**



Нарадзіўся ў 1936 годзе ў Кленіках. Скончыў Галоўную школу вясковага гаспадарства ў Варшаве. Шмат гадоў працаваў настаўнікам. У 1977 стаў кіраўніком найбольшай гаспадаркі ў Нарваўскім сельскагаспадарчым камбінаце, які абымаў тэрыторыю ўсяе гміны — у Трасцяныцы. Пасля двух гадоў паспяховае працы запрапанавалі яму пасаду начальніка гміны Нарва.

Найважнейшым сваім заданнем лічыў ён у той час супрацьпастаўленне ліквідацыі індывідуальных сельскіх гаспадарак. А гэты працэс у Нарваўскай гміне пайшоў вельмі далёка — „кулка" былі пераняты калгасам, на ўсю гміну ў прыватных руках было ўсяго 50-60 трактароў (у суседніх Чыжах — дзесяць разоў больш). У першую чаргу трэба было адрадзіць „кулка" і сетку машынных паслуг для гаспадароў ды дабівацца ў ваяводстве як найбольш трактароў. І гэта атрымалася. У Нарве ў пачатку васьмідзесятых удалося затрымаць характэрны таму часу развал гаспадаркі і правесці шэраг карысных інвестыцый. Збудавалі тады, між іншым, водаправоды ў Нарве, Макаўцы, Храбустоўцы, праклалі акружную шашу каля Нарвы. Аграмадны сельскагаспадарчы камбінат зноў раздзяліўся на пасобныя калгасы. З'явілася ў іх магчымасць працаваць на свой рахунак. Выдатна шанцы выкарыстала Макаўка і сёння маем там вядомы каапэратыў „Рольмак".

Начальнікам гміны Ян Тапалянскі быў да 1985 года. Другі раз стаў кіравацъ гміннай адміністрацыяй у 1990 годзе. Ужо як войт, выбраны паводле дэмакратычных працэдур. Гэты час успамінае ён як яшчэ больш цяжкі, таму што за спіною не адчувалася падтрымкі зверху. Усё трэба было вырашаць на месцы. На працягу чатырохгадовай кадэнцыі не было часу на водпуск.

Найважнейшымі праблемамі ў той час былі: брак збыту на сельскагаспадарчыя прадукты і заняпад працуючых для патрэб вёскі прадпрыемстваў. Тады нарадзілася ідэя Саюза гмін Усходняй Беласточчыны „Нарва", каб супольна з суседзямі пераадольваць складанасці. Саюз завязаў кантакты з Менскам, знайшлі там збыт на збожжа, бульбу і гародніну з Беласточчыны. Прабілі тады шлях фірме „Пронар", якая аказалася на беларускім рынку салідным партнёрам і неўзабаве падпісала кантракт на мантаж трактароў „Беларусь" у Нарве. Дзеля гэтага, аднак, патрэбна была рэструктурызацыя маёмасці паўшага ПОМа. І гэта ўдалося паспяхова правесці ў апошні дзень 1991 года. Ян Тапалянскі ганарыцца, што прыйшлося яму ўдзельнічаць у тым працэсе, бо гэта, бадай, адзіны выпадак у маштабе краіны, што на базе ПОМа развінула карысную дзейнасць такое вялікае і дынамічнае прадпрыемства.

Ян Тапалянскі ў Сенаце хоча служыць сваім выбаршчыкам і ўсёй грамадскасці Беласточчыны, а асабліва будзе заступацца за:

— развіццё гаспадаркі ў нашым рэгіёне і ахову натуральнага асяроддзя;

— развіццё самаўрадаў і перадачу са скарбу дзяржавы зямлі гмінам, бо гміна — гэта людзі з зямлёю;

— вёску і гаспадароў, каб былі стабільныя эканамічныя ўмовы развіцця гаспадарак і паслуг на вёсцы;

— за роўныя правы і абавязкі ўсіх грамадзян, за пашану слабейшых і меншасцей.

*(платная аб'ява)*

# Каб беларусы маглі ганарыцца



*Злева: Яўген Вапа і Рышард Бугай.*

**Яўген Вапа, беларускі кандыдат у Сейм Рэчы Паспалітай са спіска Уніі працы. Спісак № 1.**

Яму 32 гады, жыве ў Бельску-Падляшскім, працуе настаўнікам гісторыі ў Гайнаўскім ліцэі з беларускай мовай навучання. У 1988-1990 гадах быў старшынёй Беларускага аб'яднання студэнтаў, ад двух гадоў узначальвае Беларускі саюз у Рэчы Паспалітай.

З Уніяй працы — партыяй Аляксандра Малахоўскага і Рышарда Бугая — Беларускі саюз спалучаюць падобныя меркаванні наконт грамадскай справядлівасці, захавання роўнасці ўсіх грамадзян, пашаны для людзей іншай культуры і верavызнання. Унія працы, як адзіная партыя ў польскім парламенце выступіла за такія самыя правы для Праваслаўнай царквы, якія мае Каталіцкі касцёл. Усе іншыя партыі былі супраць.

Яўген Вапа, кандыдат Беларускага саюза, з'яўляецца прыхільнікам палітычнай памяркоўнасці. Дзякуючы яго намаганням беларусы атрымалі тэлеперадачы на беларускай мове і пашыраны эфірны час на радыё. Ужо некалькі гадоў, разам з сябрамі з беларускіх арганізацый, аб'яднаных у Саюзе, працуе над праектам грамадскага і эканамічнага развіцця Усходняй Беласточчыны. Ёсць шанц паменшыць беспрацоўе ў нашых мястэчках, пабудаваць больш дарог і водаправодаў у нашых вёсках, ажывіць „усходнюю сцяну". Але для гэтага, у радах заканадаўчай і выканаўчай улады, патрэбны людзі, якія хацелі б, каб жыхарам усходняй Беласточчыны жылося не горш, чым грамадзянам іншых рэгіёнаў краіны. Каб тутэйшыя беларусы маглі ганарыцца сваімі гаспадаркамі, адукацыяй дзяцей, сваёй культурай.

* * *

Кандыдатуру Яўгена Вапы ў паслы падтрымалі: Мікола Адамік (радны Гарадоцкай гміны), Надзея Артымовіч (паэтка), Пятро Багроўскі (селянін), Аляксандр Божка (радны Гарадской рады Бельска-Падляшскага), Мікалай Бушко (дырэктар Гайнаўскага дома культуры), Яраслаў Харкевіч (радны Нараўчанскай гміны), Юры Хмялеўскі (рэдактар „Часопіса"), Сцяпан Хурса (селянін), Дарафей Фіёнік (публіцыст), д-р Галена Глагоўская (палітолаг), Сакрат Яновіч (пісьменнік), Пятро Юшчук (юрыст), Ян Карчэўскі (настаўнік), Юры Каліна (журналіст), Пятро Крук (старшыня БДА), Васіль Ляшчынскі (дырэктар Пачатковай школы н-р 3 у Бельску-Падляшскім), Алег Латышонак (гісторык), Аляксандр Лаўрыновіч (намеснік дырэктара Агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання ў Гайнаўцы), Сяргей Лукашук (дырэктар Дома культуры ў Бельску-Падляшскім), Мікалай Лук'янюк (селянін, пенсіянер), Уладзімір Лукошык (старшыня Гміннай рады ў Гарадку), Ян Максімюк (перакладчык беларускай літаратуры), Яўген Міраловіч (рэдактар „Нівы"), Міраслаў Пац (студэнт), Міраслаў Пякарскі (бізнесмен), Яўген Сачко (дырэктар Агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання ў Гайнаўцы), Васіль Сакоўскі (настаўнік беларускай мовы ў Гайнаўскім ліцэі), Вольга Сянкевіч (настаўніца беларускай мовы ў Гайнаўскім ліцэі), Віктар Стахвюк (бізнесмен), Андрэй Сцепанюк (бурмістр Бельска-Падляшскага), Галена Тапалянская (настаўніца, пенсіянерка), Ян Тапалянскі (радны Нарваўскай гміны), Віктар Швед (паэт), Раман Шыманюк (юрыст), Міраслаў Урбановіч (інжынер).

*(платная аб'ява)*

# Праверыцца на выбарах

**Размова з Пятром КРУКАМ, старшынёю Галоўнай рады Беларускага дэмакратычнага аб'яднання, якога 24 мая г.г. Кангрэс партыі выбраў старшыняваць Аб'яднанню другую кадэнцыю.**



***— Апошнія гады ў польскай палітыцы былі перыядам, за які малыя партыі або цалкам зніклі са сцэны, або ўліліся ў галоўныя палітычныя плыні ў гэтай краіне. Як гэты працэс паўплываў на БДА — партыю абмежаваную сваім абсягам і ўплывам да беларускай нацыянальнай меншасці?***

— Неўзабаве само жыццё правядзе верыфікацыю, як БДА перанесла гэты час. Маю тут на ўвазе парламенцкія выбары. Скажу аднак, што наша партыя спецыфічная ды нельга да яе прыкладаць мерак, знятых з польскіх партый. Мы прадстаўляем нацыянальную меншасць ды гэтая акалічнасць вызначае нашу фізічную велічыню. Мы паставілі ў выбарах двух кандыдатаў у Сенат — гэта і ёсць апраўданне існавання нашай партыі. Лічу, што наш электарат павінен асвядоміцца, як за апошнія гады СЛД яго ацаніла. Несумненна, прыезд на Беласточчыну двух найважнейшых у дзяржаве чыноўнікаў робіць уражанне, але апрача гэтага ёсць яшчэ і факты. А яны, хаця б, такія: скасаванне чыгункі на лініі Бельск—Гайнаўка, на найбольш заселеным беларусамі абшары Беласточчыны; некарысны для нас вынік галасавання ў Сейме за зраўнаннем у правах Праваслаўнай царквы з Каталіцкім касцёлам...

***— Ці кандыдатуры Міхала Кандрацюка і Яна Тапалянскага даюць шанц на тое, каб сярод электарату адбылося такое асведамленне і зварот?***

— Я маю такую надзею. Гэта задно і будзе спроба верыфікацыі ідэй нашай партыі. Задача і сэнс існавання партыі ў прамоцыі кандыдатаў ды палітычных ідэй. Думаю, што мы выйграем.

***— Ці не думаеце, што пасля выбараў варта было б засяродзіцца на пабудове структур партыі?***

— Невялікія тэрытарыяльныя структуры ёсць. Невялікія, бо і сама партыя невялікая. Вядома, што ніхто нас не дафінансоўвае, а наша дзейнасць — вынік нашай свабоднай волі. Стварэнне вялікіх структур звязалася б з такімі ж вялікімі коштамі. Нешта такое нам не пад сілу. Нашы структуры — гэта прыхільныя нам людзі, а такія ёсць і ў Гарадку, і ў Бельску ды ў іншых мясцовасцях. Гэта наша аснова, на якой засаджваецца ўся дзейнасць. Калі на працягу дванаццаці дзён удалося сабраць звыш пяці тысяч подпісаў у падтрымку кандыдатам у Сенат, дык гэта абазначае, што такая сістэма спрацоўвае.

***— Ці Вы лічыце, што электарат БДА даверае палітыцы як форме афармлення жыццёвых спраў. Ці беларус на Беласточчыне паверыў, што галасаванне нейкія чынам перакладаецца на яго штодзённы лёс?***

— Гэта складанае пытанне. Адны ў гэта паверылі, а іншыя страцілі давер. Матэрыяльнае становішча людзей за апошнія гады моцна дыферэнцыравалася. У палітыку вераць тыя, сітуацыя якіх палепшылася — для іх голас за тую, ці іншую групоўку гэта перад усім забеспячэнне свайго статусу ды шлях у яшчэ большы прыбытак. Збяднелаясць грамадства заключаецца ў браку працы ды сродкаў для жыцця. Такія вось людзі не знаходзяць сёння свайго кандыдата, бо ніводзін дагэтуль не даў ім надзеі на паляпшэнне лёсу. Такія людзі могуць увогуле не прагаласаваць, а калі ўжо гэта зробяць, то немагчыма прадбачыць іхнія схільнасці.

***— Дзесяць гадоў таму, яшчэ ў аднапартыйнай сістэме, галасаванне не ўяўляла ніякай складанасці. Як Вы лічыце, ці сёння наш выбаршчык гатовы, каб з безлічы прапаноў і праграм выбраць для сябе найлепшае?***

— Я перакананы, што выбіраць людзі навучыліся. Іншая праблема, ці пападуць яны на кандыдата, якому поўнасцю будуць давяраць.

***— Ці асобы М. Кандрацюка і Я. Тапалянскага ўяўляюць тыя якасці, якія схіляць беларускі электарат, каб за іх прагаласаваць у выбарах?***

— Міхал Кандрацюк — гэта асоба з навуковага свету. Я думаю, што цяпер, як ніколі дагэтуль, людзям стала ясна, што якраз адукацыя ды свядомасць свайго лёсу — гэта тыя каштоўнасці, якія выносяць чалавека на вышэйшую ступень у грамадстве. Ян Тапалянскі вядомы як войт і самаўрадавы дзеяч — ён, нібыта сімвал гаспадара на сваім ды сімвал гаспадаровай незалежнасці і адказнасці за свой лёс. Апошнія гады пераканалі, што чалавеку найлепш вядзецца, калі ён у сябе сам гаспадаром. Абодва кандыдаты будуць добрымі прадстаўнікамі Беласточчыны ў Сенаце Рэчы Паспалітай.

***— Дзякую за размову.***

Гутарыў
**Аляксандр Максімюк**

# Хлеба і відовішчаў

Мінулі канікулы, вучні пайшлі ў школы, але з увагі на палітычны каляндар сезон фэстаў з удзелам агульнавядомых асоб не канчаецца. Некаторыя замест у варшаўскі оперны тэатр ці філармонію едуць на Беласточчыну, каб паслухаць беларускія народныя песні.

Пасля доўгага перыяду эксперыментаў з „сацыялістычнай дэмакратыяй" прыйшоў час змагання за ўладу ва ўмовах, калі дастаецца яна па волі люду. У старажытным рэспубліканскім Рыме кожны, хто думаў пра палітычную кар'еру, вымушаны быў шукаць адабрэння свае асобы сярод плебсу, раздаючы хлеб, грошы і арганізуючы яму відовішчы. У імператарскім Рыме, а пасля ў цэлай феадальнай Еўропе ўладу даваў і адбіраў вышэй пастаўлены ў іерархіі саноўнік. Сярэднявечча спарадзіла аднак таксама антыфеадальную па сваёй натуры форму фарміравання ўлады — гарадское самакіраванне. Дало яно пачатак мяшчанскаму лібералізму, а пасля парламенцкай дэмакратыі. Фашызм і камунізм на кароткі перыяд аднавілі найбольш жорсткія азіяцкія формы феадальнага станаўлення ўлады. Кампраметацыя гэтых сістэмаў стала пачаткам вяртання да традыцыйных метадаў змагання за публічныя пасты. Суверэнам зноў стаў люд і яго воля. Таму кожны, хто мае жаданне атрымаць уладу, вымушаны ўлічваць гэты фактар, паказваць сябе ў найбольш прываблівым святле. Вялікі шанц на рэкламу сваіх асоб маюць людзі заможныя, якія беспраблемна могуць даць люду „хлеб і відовішчы". На Захадзе толькі яны змагаюцца за ўладу і ўплывы, на Усходзе робіць гэта кожны, хто мае ахвоту і адпаведную фантазію. Кандыдатамі на прэзідэнцкі пост у Польшчы былі сатырыкі, звычайныя авантурысты і нейкія Бублі. У Беларусі прэзідэнтам стаў нікому раней не вядомы кіраўнік саўгаса. Пра некаторых кандыдатаў у паслы ды сенатары лепш не ўспамінаць. У нармальным грамадстве былі б яны суразмоўцамі лекараў ці пракурораў. У Польшчы, аднак, найчасцей выйграваюць на выбарах тыя, за якімі стаяць адпаведныя фінансавыя і тэхнічныя сродкі, штабы людзей і ўплывовыя арганізацыі.

Калі сярод ўдзельнікаў народнага фэсту прысутнічаюць прэзідэнт, прэм'ер-міністр, ваявода, не абазначае гэта, што не маюць яны ніякіх іншых абавязкаў, ці з'яўляюцца аматарамі беларускай фальклорнай песні і музыкі disco polo. Прысутнасць на такім мерапрыемстве — гэта цана, якую трэба плаціць за палітычную падтрымку. Той, хто раздае піва, булкі і гарачую каўбасу быццам бы дарма, у сапраўднасці інвестуе, як кожны чалавек інтарэсу. А такая інвестыцыя, як кожная іншая, робіцца дзеля таго, каб быў прыбытак у будучыні. Тым, якія не маюць сродкаў на пачастунак для электарату і арганізацыю відовішчаў, астаецца толькі пераконваць люд, што ўсё гэта будзе крыху пазней — пасля выбараў.

Найважнейшае, аднак, у гэтай сістэме фарміравання ўлады ёсць тое, што кандыдат выбіраецца на нейкі перыяд. Праз некалькі гадоў адбываецца праверка даверу да яго асобы з боку электарату. Рассмакаваўшыся ўладай кожны імкнецца прадаўжаць прыемныя хвіліны свайго жыцця, таму і робіць усё, каб ачараваць выбаршчыкаў сваёй асобай. Выбарчая кампанія часам ператвараецца ў спектакль ілюзіяністаў. Але, як сказаў адзін з найбольш вядомых англійскіх палітыкаў Уінстан Чэрчыль, „дэмакратыя — гэта агідная сістэма, аднак ніхто яшчэ не прыдумаў лепшай".

**Яўген Мірановіч**

# Луна-парк у Гарадку

У апошнюю нядзелю жніўня адбываліся традыцыйныя беларускія фэсты арганізаваныя Галоўным праўленнем БГКТ і самаўрадамі ў Міхалове і Гарадку. Асабліва цікава праходзіла народнае гулянне ў Гарадку, дзе з'явілася больш кандыдатаў у паслы і сенатары, чым бэгэкатоўскіх артыстаў на дошках гміннага амфітэатра. Ужо на пачатку фэсту ўсім кандыдатам не хапіла месца на дрэвах ва ўрочышчы Борык, каб замацаваць там свае плакаты. Гарадоцкі электарат атрымаў ад прысутных там палітыкаў столькі прапагандысцкай літаратуры, што не памяшчалася яна ў кішэнях. Цэлае шчасце, што гмінныя ўлады падумалі аб тым, каб паставіць сметнікі. Інакш тамашняй прыродзе пагражала б экалагічная катастрофа. Апрача „нашых" кандыдатаў, якія з'явіліся ў Гарадку ў камплексе, свае лістоўкі і плакаты раздавалі „нянашыя" ад Саюза левых дэмакратаў і Уніі вольнасці, магчыма, што яшчэ і іншыя. Песні народных артыстаў былі толькі дадаткам да мітынгу і дасканала ўпісваліся ў перадвыбарчую атмасферу.

**(ям)**

# Мова ў Беластоку

Пасля двухгадовага навучання элементаў беларускай мовы і культуры ў беларуска-польскім Прадшколлі н-р 14 у Беластоку з'явіўся першы эфект. У гэтым навучальным годзе група выхаванцаў гэтага прадшколля паступіла ў першы клас у Пачатковую школу н-р 4, дзе адкрылася для іх навучанне беларускай мовы ў колькасці 3 гадзіны ў тыдзень.

Дырэктар школы н-р 4 **Збігнеў Клімовіч**, матэматык па адукацыі, стаіць на пазіцыі, што трэба скарыстаць існуючыя юрыдычныя і арганізацыйныя магчымасці, каб навучанне беларускай мовы забяспечыць, паколькі патрэбу такую заявілі бацькі першакласнікаў. І вось, 1 верасня так яно сталася — у рады першакласнікаў, якія будуць вывучаць родную мову ўступілі дзеці такіх вядомых у беларускім асяроддзі асоб, як Валянціны і Віктара Шведаў, Анны і Пятра Юшчукоў, Міраславы і Юрыя Калінаў, Рэнаты і Цэзарыя Більмінаў (вядомыя, як арганізатары прадшкольнага жыцця).

Настаўніцай беларускай мовы ў школе н-р 4 у Беластоку стала **Аліна Ваўранюк** — дырэктар З. Клімовіч прыняў яе на працу па рэкамендацыі бацькоў. А. Ваўранюк настаўнічае ў Бельску-Падляшскім у школе н-р 3 і сваёй працы там не кінула. На ўрокі ў беластоцкую школу будзе даязджаць. З беластоцкімі першакласнікамі А. Ваўранюк намерваецца, між іншым, працягваць працу, пачатую настаўнікамі ў беларуска-польскім порадшколлі — гэта значыць, знаёміць вучняў з беларускай мовай ва ўсякіх забаўляльных формах.

**Школьны год пачаўся, але Пачатковая школа н-р 4 у Беластоку, што па вул. Чанстахоўскай (цэнтр горада) ніякім чынам не зачыняецца на новых навучэнцаў беларускай мовы. Дырэктар школы здаецца быць спагадлівым у гэтай справе.**

* * *

Можна паважыцца тут на сцвярджэнне, што арганізацыя бацькамі навучання беларускай мовы ў беластоцкай пачатковай школе канчаткова падводзіць шматгадовы перыяд *змагання, падзвіжніцтва і ахвярнасці дзеля беларускай справы* ў галіне асветы. Сутнасць гэткага падыходу заключалася ў выліванні слёз „ох, як мы цяжка змагаліся і надалей змагаемся за беларускую асвету". Сёння ж, выйшла на тое, што ніякае *геройства і ахвярнасць дзеля беларускай справы* тут непатрэбныя. Хопіць схацець, каб сваё дзіця ведала сваю мову ды знайсці ў гэтай справе пару аднадумцаў.

**Аляксандр Максімюк**

Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

# Адкрылі доўгачаканую школу



*Новая школа ў Нараўцы.*

Новая школа — як з казкі. Яна нагадвае мне сцэнічнае афармленне да песеннага рэпертуару нашага калектыву „Душкі з пушкі", — кажа заваражаная выглядам будынка дзяўчына з Нараўкі.

## 1 верасня

Пачатак новага навучальнага 1997/98 года ў Нараўцы прывіталі надзвычай урачыста. Дзеткі, моладзь, бацькі, настаўнікі мелі для таго добрую нагоду.

У Нараўцы адкрылі доўгачаканую новую школу.

— Яна самая прыгожая ў краіне, — гаворыць пяцікласніца Аня Кісла.

Аня і яе сябры, бацькі і настаўнікі супольна рыхтаваліся да сёняшняй урачыстасці.

— Мы прыбіралі будынак, наводзілі канчатковыя парадкі, — успамінае мая субяседніца.

Апрача гэтага Аня з сяброўкамі, якія спяваюць у калектыве „Душкі з пушкі" два тыдні гатовіліся да інаўгурацыйнага выступлення, каб паспяваць і патанчыць перад важнымі гасцямі. У Нараўцы спяваюць не толькі дзяўчаты. Другакласнік Мар'юш Лясота як ніхто захапіў публіку. Хлопчык спяваў беларускую песню, свой шэдэўр з апошняга беларускага агляду. Мар'юш быў назначаны для выканання гістарычнай задачы. Разам з беластоцкім куратарам асветы Тадэушам Калютай, войтам гміны Мікалаем Павільчам, намеснікам дырэктара ПШ у Нараўцы Мікалаем Герасімюком і старшынёй Бацькоўскага камітэта Аляксандрам Шыманюком пасадзіў перад новым будынкам школы дубок — сімвал доўгавечнасці, моцы і магутнасці.



*Пачатак школьнага года быў надзвычай урачысты*



*Выступаюць „Душкі з пушкі".*

На школьнай урачыстасці ў Нараўцы сустрэла я настаўніцу беларускай мовы Ганну Кандрацюк.

— У новай школе будзе кабінет беларускай мовы. Дойдуць таксама дзеткі з Лешукоў, якія ў сваёй старой школе поўнасцю вывучалі родную мову.

— Я таксама буду хадзіць на гэтыя ўрокі, — кажа згаданы другакласнік Мар'юш Лясота.

Шкада, што ў Нараўцы нямногія цікавяцца гэтым „непрактычным" а папраўдзе найважнейшым прадметам. Трэба спадзявацца, што новая школа памяняе падыход і ў гэтай справе.

— Новая прыгожая і сучасная школа можа паўплываць вельмі карысна на дзяцей, — кажа яе дырэктар Яўген Валкавыцкі. — Дзеткі могуць памяняць свае адносіны да навукі. Яны напэўна адчуюць сябе лепшымі і важнейшымі.

Самі дзеці вельмі эмацыянальна гаварылі пра сваю новую школу:

— Яна такая цікавая, вялікая, што цяжка расказаць. І вельмі хочацца, каб пачаліся ўжо ўрокі.

**Ганна КАНДРАЦЮК**
*Фота аўтара*

# Вацлаў Іваноўскі

Вацлаў Іваноўскі быў адным з самых выдатных прадстаўнікоў беларускага адраджэння. Нарадзіўся ён у 1880 годзе ў мясцовасці Лябёдка, што ў Лідскім павеце. Паходзіў са шляхецкай сям'і. Адзін з яго братоў быў дзеячам літоўскага нацыянальнага руху, другі — прапагандыстам польскасці. Вацлаў не сумняваўся ў сваёй беларускасці. Падчас вучобы ў Пецярбургскім тэхналагічным інстытуце ўключыўся ў дзейнасць беларускіх студэнтаў. Быў адным з заснавальнікаў першай беларускай партыі — Беларускай рэвалюцыйнай грамады. У 1906 годзе разам з сябрамі стварыў беларускую выдавецкую суполку „Загляне сонца і ў наша аконца". Першымі кніжкамі гэтага выдавецтва былі „Беларускі лемантар або першая навука чытання" і „Першае чытанне для дзетак беларусаў". Суполка, якой кіраваў Вацлаў Іваноўскі, выдала разам 38 кніжак тыражом звыш 100 тысяч паасобнікаў.

Адначасова Іваноўскі актыўна займаўся навукай. Да 1913 года працаваў прафесарам у Пецярбургскім тэхналагічным інстытуце. Напісаў ён, між іншым на беларускай мове, падручнік па неарганічнай хіміі для студэнтаў. Распрацаваў таксама беларускую навуковую тэрміналогію па хіміі.

У 1913 годзе Іваноўскі пераехаў жыць у Вільню — горад, які стаў цэнтрам беларускай культуры і палітыкі. У тым самым годзе ўзначаліў ён Беларускае выдавецкае таварыства. Да 1915 года таварыства выдала 14 кніжак на беларускай мове, у тым ліку творы знакамітых прадстаўнікоў беларускай літаратуры — Янкі Купалы і Якуба Коласа.

У 1920-1939 гадах Вацлаў Іваноўскі прысвяціў сябе выключна навуцы. Спачатку працаваў прафесарам у Менску, пасля ў Варшаве. Да палітыкі вярнуўся ў 1941 годзе, калі пабачыў шанц стварэння беларускай дзяржаўнасці. Для здзяйснення гэтай ідэі прабаваў шукаць паразумення з палякамі, англічанамі, а ў канцы з немцамі. У лістападзе 1941 года стаў нават бургамістрам Менска, прабаваў паўстрымаць нямецкія рэпрэсіі на беларускім народзе. У снежні 1943 года быў забіты на адной з вуліц Менска. Акалічнасці яго смерці пакуль што нявысветлены. Так загінулі тады дзесяткі беларускіх патрыётаў, лідэраў нацыянальнага руху. Ніхто з суседзяў Беларусі не жадаў існавання беларускай дзяржаўнасці. За незалежную Бацькаўшчыну пакаленне Вацлава Іваноўскага плаціла высокую цану.

## Верасень

І ўжо не месяц — верасы
Звіняць,
Напэўна, ад расы.
Чутны світанку галасы:
— Дзінь-дзінь...
Бом-бом...
— Жывём?
— Жывём!
Мне Верасень
Руку падаў:
— Ты ў школу
Свой партфель
Сабраў?
— Сабраў партфель,
І сам сабраўся,
І з вольным летам развітаўся.
— Куды ж цяпер
Твой дзень імчыцца?
— Вучыцца, Верасень,
Вучыцца.

**Сяргей Папар**

# Вершы Віктара Шведа

### На пляжы

Бязмежным морам Натка
Зноў цешыць свае вочы.
Маленькаю лапаткай
Сыпле ў ваду пясочак.

— Чаму ты пляж руйнуеш? —
Тата спытаў з дакорам.
— Татулька, я прабую
Пяском засыпаць мора.

### Перамены

З пясочніцы ўжо вырастае
Сямігадовая Наталька.
І штораз меней ужо дбае
Пра свае неразлучкі-лялькі.

Яе не вабіць пляж прыгожы,
Кажа, што пражыцца не будзе.
І зразумець ніяк не можа
Чаму тут загараюць людзі.

Ды толькі ўсцяж марскія хвалі
Вабяць адважную дзяўчынку.
Іх не пужаецца Наталля,
Купацца хоча безупынку.



*Наталька Швед (на першым плане) з новай сяброўкай Агатай Грахоўскай з Любліна.*
Фота Валянціны ШВЕД

# Жывая граматыка

Той,
хто быць пісьменным хоча,
ведаць мусіць з першых год
**род мужчынскі,**
**род жаночы**
і яшчэ —
**ніякі род.**
Гусь ураннi
выйшла з хаты,
важна тупае лужком.
А за ёю —
гусяняты,
дзе падскокам,
дзе трушком.
А я гусі
не баюся,
а я з гусі
пацвялюся!
Тут **яна**
як с-с-сыкане
ды ў атаку —
на мяне:
— Га-га-га!
Ды го-го-го!
Да-га-га-ганю яго!..
Ледзь схаваўся я
за плот...
Гусь — **яна?**
**Жаночы род!**
Ах я, бедны,
небарака.
Ззаду гусь,
а тут — **сабака.**
І гырчыць,
і шчэрыць зубы.
Дзе схавацца мне
ад згубы?
Што рабіць?
І, нібы кот,
я ўскараскаўся на плот.
А сабака
аж якоча —
учапіцца ў лытку хоча.
**Ён** пільнуе агарод...
**Ён?**
Ага, — **мужчынскі род!**
Колькі гэтак —
вось няўдача! —
Пратырчу на плоце я?
Азірнуўся,
ажно бачу:
тут яшчэ і **кацяня!**
— Мяў, —
гаворыць мне **яно, —**
я даўно сяджу, даўно.
Аднаму
так страшна —
вох!
Ваяваць
смялей удвох...
І адразу —
хвост трубой.
І гатовае
у бой...
Кацяня —
яшчэ не кошка.
Кацяня —
яшчэ не кот.
Ну, а род?
Падумай трошкі.
Раз **яно** —
**ніякі род!**
Я запомню назаўсёды
пасля гэткае прыгоды:
**род мужчынскі,**
**род жаночы,**
**рок ніякі** —
ўсе **тры роды.**

**Артур Вольскі**

# Кухар і пан

***(малдаўская казка)***

Аднойчы пан, едучы ў карэце гуляць, загадаў кухару засмажыць да яго вяртання гусь.

— Але калі спакусіць цябе нячысцік з'есці хоць кавалачак, я загадаю звязаць тябе рукі, ногі ды столькі кіёў адлічыць, каб пасля не надзіла цябе і думаць пра мяса.

— Зразумела, паночку.

— Глядзі ж: калі зразумела, дык зразумела; і да майго прыезду каб гусь была гатова, не гарачая, не халодная, духмяная — у самога слінкі цякуць.

Трываў кухар, трываў, ды не стрываў, адрэзаў гусіную ножку ды з'еў.

Прыехаў пан і, убачыўшы, што гусь без адной нагі, ледзь не лопнуў ад злосці і гневу.

— Вось, значыць, які ты скваплны! А ці не загадваў я табе не датыкацца да гусі?!

— Але ж гусь цэлая, паночку.

— А ножку хто з'еў?

— Паночку, у гэтае гусі была толькі адна ножка.

— Ды што ты пляцеш, хто гэта бачыў, каб гусі аднаногімі былі! — усклікнуў пан, уплятаючы смажанае мяса.

— Не верыце, паночку, пойдзем на сажалку, паглядзім.

— Добра, але калі не так будзе, то я ўжо ведаю, што з табой рабіць.

Пайшлі на сажалку. Сонца прыпякала, дзень быў цудоўны, і гусі стаялі на беразе ўсе на адной ножцы, дзюбамі крылы цэрабілі, прыхарошваліся.

— Ну вось, паночку, бачыце, гусі ўсе — аднаногія.

А пан як плясне ў далоні, ды як закрычыць: кышш... гыля... гыля... гыля!..

Страпянуліся гусі, спалохаліся і разбегліся па беразе хто куды.

— Бачыш, лодыр, у іх у кожнай па дзве нагі?

— Дык што ж, паночку... чаму ж вы не крыкнулі і той гусі: кыш... гыля... гыля... гыля?!

Глядзіць на кухара пан, а сказаць няма чаго. Прамаўчаў і з таго часу больш не загадваў кухару не каштаваць тое, што гатаваў.

# Міфалогія старажытнай Беларусі

### 2. Багнік

Багнік пражывае ў тарфяным балоце, якое ніколі не пакрываецца раслінасцю і мае выгляд бруднай, чорнай лужы. Ён ніколі не паяўляецца над паверхняю сваёй багны. Пра жытло Багніка можам здагадацца па бурбалках і дробненькіх агеньчыках, якія бачым на паверхні балота. Гэтае месца адзначаецца ўздрыгваннем — тады дыхае і пыхае вечна бяздзейны Багнік. Ён ніколі не падымаецца з мяккага ложа, нават тады, калі ахвяра гіне ў гразі. Багнік упэўнены, што і так ахвяра да яго прыйдзе сама. Не толькі людзі, але і шматлікія жывёлы асцерагаюцца багны, пакольку часам забівае яна атрутнымі газамі, якія выпускае Багнік.

Багнік — бажок вельмі запэцканы і брудны. Баіцца ён асушэння, але палохаюць яго маразы, якім даволі рэдка ўдаецца закрыць багну. Найбольш страшныя яму прадпрымальныя людзі, якія вычэрпваюць багністую гразь для вырабу з яе паліва, угнаенняў. У сухое лета паўмёртвы Багнік мучыцца на дне свайго жытла і ледзь перажывае час да новых дажджоў.

***(працяг будзе)***

# Крыжаванка № 37

***Даслала Кася Леанюк з Гайнаўкі***

Запоўніце клеткі словамі паводле значэнняў. Атрыманы лозунг (з наклееным кантрольным талонам) дашліце на працягу трох тыдняў у „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

- Тэкля з фільма „Пчолка Мая”
- адсутнасць вайны
- пара канікул
- валейбойная... разыграла матч
- сібірскі лес
- спальны ў турыста
- прылада для касца
- стручастая расліна
- множны ў граматыцы
- буйная на лузе

Талон „Зоркі” № 37
14.09.1997

# Як заплаціць за пакуты?

**— У нашым аддзеле агранізацыі большасць, бо каля 75%, гэта беларусы, — кажа Мар'ян Салярчык, віцэ-старшыня Акруговага аддзела Таварыства палякаў пацярпеўшых ад III Рэйха ў Беластоку.**

Першы з'езд гэтага таварыства адбыўся ў Беластоку 20 студзеня 1988 года. Ініцыятарам згуртавання быў Вальдэмар Манкевіч, шэф Акруговай камісіі даследавання гітлераўскіх злачынстваў, а першым старшынёй управы быў выбраны М. Салярчык. Фармальна Галоўнае праўленне і ваяводскія аддзелы былі створаны ў 1989 годзе.

**Мэтай таварыства**

ёсць дакументаванне гістарычнай праўды аб лёсах грамадзян Польшчы, праследаваных III Рэйхам, імкненне забяспечыць пацярпеўшым іхныя правы і атрыманне імі сацыяльнай дапамогі, дзеянне на краёвым і загранічным форуме дзеля атрымання цывільна-праўнай дарогай маральнай і матэрыяльнай кампенсацый грамадзянамі, праследаванымі ў III Рэйху, а асабліва тымі, хто быў зняволены у канцлагерах, лагерах працы, у турмах.

Паводле стану на 30 чэрвеня Ваяводскі аддзел у Беластоку гуртуе 10 066 членаў, з таго, напрыклад, 141 вязня канцлагераў, прымусова вывезеных на работу ў Нямеччыну — 6 774 асобы, 555 асоб, якія працавалі ў месцы пражывання, 724 асобы пераселеныя і са спацыфікаваных вёсак, ваеннапалонных — 328, дзяцей забраных для германізацыі — 289, спадкаемцаў — 1 255 асоб. Ад першага з'езду памерла больш за тысячу членаў таварыства.

У выніку дамовы ад 16 кастрычніка 1991 г. паміж урадамі Польшчы і Германіі створаны быў

**Фонд**

**„Польска-нямецкае прымірэнне".**

Змест дамовы быў прадметам пастановы Сейма РП. Адпаведна рашэнню, урад ФРГ, маючы на мэце гуманітарныя адносіны, перадаў **500 мільёнаў марак** дзеля аказання дапамогі асобам пацярпеўшым ад нацыстаў. 1 ліпеня 1992 г. Фонд пачаў прымаць заявы (wnioski) ад Таварыства ў справе фінансавай дапамогі. Дамагацца тае дапамогі маюць права пацярпеўшыя, якія прабывалі ў турмах, канцлагерах, у т.зв. Polenlager у Сілезіі, найменш 6 месяцаў працавалі як нявольнікі, дзеці (да 16 гадоў), забраныя для германізацыі, дэпартаваныя з сем'ямі, прабываючыя ў турмах ці канцлагерах. Выконваючы задачы Таварыства, праўленне беластоцкага аддзела перадало ад 1 ліпеня 1992 г. да 31.XII.1996 г. заявы ад 8 231 членаў. Фонд пазітыўна афоміў заявы, даў дапамогу 7 001 члену, г.зн. для 82,40%; (у сярэднім — па больш за 7 мільёнаў злотаў). Цяпер, пасля завяршэння I этапа, фонд прыступіў да выдачы чэкаў, сродкі на якія будуць чарпацца з працэнтаў фінансавых лакат.

**Дапамога прызначана**

перш за ўсё для асоб, якія закончылі 80 гадоў і былі зняволены ў канцлагерах і турмах. За адзін месяц нацысцкіх рэпрэсій напр. вязні канцлагераў артымаюць — 67 зл 20 гр, прымусовыя работнікі — 10 зл 16 грошаў.

Таварыства палякаў пацярпеўшых ад III Рэйха ў сёмым годзе сваёй дзейнасці можа ганарыцца поспехам: дзякуючы намаганням Галоўнага праўлення ТПП і добраму супрацоўніцтву з Ведамствам па справах ветэранаў і рэпрэсіраваных асоб давяло да прыняцця Сеймам рашэння ў справе

**дадаткаў да пенсій**

і рэнтаў работнікаў, дэпартаваных да прымусовай працы ў Нямеччыну і вывезеных у СССР. Рэалізуючы гэтае рашэнне Праўленне аддзела пачало ад кастрычніка 1996 г. апрацоўваць заявы членаў з мэтай атрымання імі гэтых дадаткаў. Да 30 чэрвеня г.г. праўленне перадало Ведамству пра справах ветэранаў больш за 2 550 заяў (на ўсіх 5 500 членаў), урад выдаў 1 846 пазітыўных рашэнняў (гэтыя дадаткі рэалізуюцца з **польскага** бюджэту). Дадатак за рабскую працу гэта **ад 80 да 100 злотаў** у месяц, не плаціцца ад яго падатку і будзе ён навелізаваны. Для большасці пенсіянераў гэта ж 1/3 іхняй заплаты! Можна меркаваць, што да канца 1998 г. усе тыя, хто зможа удакументаваць сваю дэпартацыю, тую дапамогу атрымаюць.

— Мэтай нашага таварыства ёсць дапамагчы нашым членам і асобам незгуртаваным дайсці сваіх правоў, — кажа М. Салярчык. — Наша акцыя ахапіла перш за ўсё пацярпеўшых найстарэйшых, інвалідаў I групы і ўжо завяршаецца. Але ёсць яшчэ тыя,

**якія не мелі сілы**

ці магчымасці адказаць на нашу просьбу, падпісаць анкету-заяву і адаслаць яе ў Таварыства. Такіх асоб ёсць праўдападобна яшчэ каля 10 працэнтаў.

— Жыхароў беларускіх прыпушчанскіх вёсак цікавіць справа кампенсацыі за высяленне і пацыфікацыю ў 1941, 1942 гадах. Паручылі яны сваю справу ў рукі Таварыству, далі вам паўнамоцтвы, да 1995 года плацілі складчыны, і справа заціхла.

— Такіх спраў ёсць у Польшчы 750 тысяч, на Беласточчыне — паўтары тысячы. I гэта праблема пакуль не зрушыць з месца, просім нам даравадь. Галоўнае праўленне старалася, каб прыняў рашэнне Сейм — паколькі цяпер ад яго, ад польскага ўрада ўсё залежыць, але нічога не змаглі мы зрабіць, — з сумам кажа пан Мар'ян Салярчык.

— Хіба што за нашы справы возьмуцца нашы людзі.

**Міра Лукша**

# Informacja

**Dowodami do wniosku o pomoc finansową Fundacji „Polsko-Niemieckie Pojednanie" mogą być następujące dokumenty**

1. Głównej (lub Okręgowej) Komisji Badania Zbrodni przeciwko Narodowi Polskiemu — Instytutu Pamięci Narodowej: adres dla korespondencji: 00-071 Warszawa, ul. Krakowskie Przedmieście 25, adres dla interesantów: Aleja Solidarności 127, p. 68 (archiwum);

2. Wydane przez Biuro Poszukiwań Międzynarodowego Czerwonego Krzyża w Arolsen: Internationaler Suchdienst, 34444 Arolsen, Grosse Allee 5-9 (Niemcy);

3. Wydane przez inne agendy Międzynarodowego lub Polskiego Czerwonego Krzyża: 00-640 Warszawa, ul. Mokotowska 14;

4. Wystawione przez Zakłady Karne na podstawie ksiąg więźniów z okresu od 01.09.1939 r. do 08.05.1945 r.;

5. Wydane przez państwowe muzea odpowiednich obozów koncentracyjnych;

6. Wystawione przez władze niemieckie w czasie II wojny światowej;

7. Wydane przez władze alinackie w czasie wojny i po jej zakończeniu;

8. Wystawione przez niemieckie zakłady pracy, które korzystały z niewolniczej pracy obywateli polskich;

9. Wystawione przez Żydowski Instytut Historyczny: 00-088 Warszawa, ul. Tłomackie 3/5;

10. Wystawione przez archiwa państwowe;

11. Korespondencja zawierająca pieczątki poczty niemieckiej z okresu i miejsca represji;

12. Pisemne wyjaśnienie (w miarę możliwości przy udziale organizacji wnioskującej) tłumaczące rozbieżności danych personalnych między KKW i dokumentami źródłowymi;

13. Zaświadczenie kombatanckie, decyzja Kierownika Urzędu do spraw Kombatantów i Osób Represjonowanych — jeżeli dołączone będą do nich potwierdzone kopie dokumentów stwierdzających doznane prześladowania;

14. Dokumenty własne doznanych prześladowań lub ich potwierdzone kopie (a nie oświadczenia świadków), na podstawie których instytucja emerytalno-rentowa zaliczyła okres represji do renty lub emerytury;

15. Oświadczenia świadków (z potwierdzeniem autentyczności podpisu świadka na oświadczeniu)

**a) odnośnie osób dorosłych (powyżej 16 lat)**

oświadczenia co najmniej dwóch świadków, których osobisty udział w zdarzeniach będąch przedmiotem oświadczenia jest udokumentowany;

**Wymóg udokumentowania** osobistego udziału świadka w zdarzeniach będących przedmiotem oświadczenia został spełniony, jeżeli świadek przedłożył:

— dokument wymieniony w pkt. 1-14;

— orzeczenie sądowe uznające oświadczenia świadków o doznanych przez nich represjach;

b) **odnośnie byłych dzieci (osób do lat 16) zatrudnionych w miejscu zamieszkania**:

oświadczenia co najmniej dwóch świadków (których osobisty udział w zdarzeniach będących przedmiotem oświadczenia jest **udokumentowany**), stwierdzające pracę niewolniczą byłych dzieci w miejscu zamieszkania **wraz z zaświadczeniem** wydanym na podstawie zasobów lokalnych archiwów (tj. organów władzy i administracji państwowej) lub Kościołów i związków wyznaniowych — potwierdzającym fakt istnienia w latach okupacji niemieckiego gospodarstwa lub zakładu pracy, na zatrudnienie w którym powołuje się wnioskodawca. Zaświadczenie powinno być opatrzone adnotacją, iż wydane jest wymienionej z imienia i nazwiska osobie zainteresowanej — na potrzeby Fundacji „Polsko-Niemieckie Pojednanie".

**Wymóg udokumentowania** spełnia **zaświadczenie** lokalnych władz stwierdzające, iż w czasie okupacji świadek mieszkał w tej samej miejscowości, co osoba występująca o udzielenie pomocy finansowej.

**Dokumenty wymagane od dzieci urodzonych w III Rzeszy** przez matkę deportowaną na przymusowe roboty w czasie II wojny światowej: metryka urodzenia + dokumenty represji matki.

**Dokumenty wymagane od dzieci przebywających w III Rzeszy razem z rodzicami** deportowanymi na roboty przymusowe: dokumenty represji rodziców ze stwierdzeniem obecności dziecka.

**Dokumenty wymagane od osób dorosłych (powyżej 16 lat)** winny potwierdzać deportację na teren III Rzeszy i przymusową pracę przez co najmniej pełnych 6 miesięcy lub inne prześladowanie nazistowskie.

**Z dokumentów musi wynikać charakter, miejsce i czas trwania represji (data rozpoczęcia i zakończenia).**

**Jeżeli zamiast dokumentów oryginalnych załączone są ich kopie, to powinny być potwierdzone jako zgodne z oryginałem przez odpowiedni organ władzy.**

**O dopuszczeniu do weryfikacji dokumentów innych niż wymienione decyduje Komisja Weryfikacyjna FPNP.**

**Adres Stowarzyszenia Polaków Poszkodowanych przez III Reszę Niemiecką Oddział Białystok:**
**15-004 Białystok, ul. Sienkiewicza 40, tel. 43-65-20.**

# Бліжэй неба

Суботнім адвячоркам 23 жніўня над Дубічамі-Царкоўнымі паявіліся дзіўныя самалёты; лёталі яны так нізка, што было выразна відаць лётчыкаў. Былі гэта пробныя палёты самаробных мотадэльтапланаў Беластоцкага аэраклуба. Сам паказ такой рукатворнай паветранай тэхнікі адбыўся ў нядзелю 24 жніўня на вадасховішчы Бахматы. Там мотадэльтапланы падымаліся, лёталі і прызямляліся, можна было на іх, побач з лётчыкам, праляцецца за тры злоты; ахвотных было многа.

Дзіўна выглядае такі „самалёт": рухавік у ім пераважна ад „Трабанта" або малога „Фіата", а рэшта канструкцыі, разам з прапелерамі, гэта работа ўласніка машыны. Хто б калісь падумаў, што чалавек у сілах сам зрабіць паветраную машыну без фабрычнай дапамогі.

На паказе прысутнічаў Яўген Вапа, настаўнік гісторыі ў Гайнаўскім беларускім ліцэі, кандыдат у паслы ад Уніі працы. Ён, наш зямляк, выступіў на ўрачыстасці з гарачай прамовай, каб мы, беларусы, у набліжаючыхся выбарах аддалі свае галасы на сваіх землякоў. I я думаю, што чужы нас не паратуе, а толькі свой дасць духовы і матэрыяльны ратунак. Нам трэба аб'яднацца ў адну сям'ю і галасаваць за сваіх, а не за чужых, як гэта мы часта робім. Аддамо галасы за Яўгена Вапу, які, супольна з Беластоцкім аэраклубам, сарганізаваў у нас такую ўрачыстасць і паказаў нам, як адараваца ад зямлі і хаця на момант быць „бліжэй неба", адарвацца ад нашых клопатаў і прыніжэння. А калі будзем вышэй, тады ніякая сіла нас адтуль не адарве. Давайце браць прыклад з немцаў, якія трымаюцца дружна і колькі маюць сваіх заступнікаў у польскіх уладах.

Бахматы — гэта найпрыгажэйшая ў нас мясціна. Калісь (пісаў я пра гэта ў „Ніве"), у першую сусветную вайну, прызямліўся тут пашкоджаны рускі самалёт і пасля рамонту адляцеў. У сёлетняй урачыстасці прысутнічала шэсць мотадэльтапланаў і многія нашы жыхары пакарысталіся магчымасцю пабачыць сваю зямельку з птушынага палёту. Якая яна прыгожая!..

**Мікалай Панфілюк**

# XXI век у Нараўцы

**— Нараўка паказала, што нашы школы могуць быць прыгожыя і функцыянальныя, па меры XXI веку, — гаварыў беластоцкі куратар Тадэуш Калюта.**

1 верасня г.г. у Нараўцы адкрылі новую школу. Тут праходзіла і ваяводская інаўгурацыя новага навучальнага года.

— Чаму якраз рашыліся правесці гэтую ўрачыстасць у Нараўцы? Мы хацелі б адзначыць вялікую працу гміннага самаўрада, войта Мікалая Павільча, дырэктара школы Яўгена Валкавыцкага і ўсіх жыхароў за разуменне і падтрымку ў пабудове школы, — сказаў беластоцкі куратар.

Новыя школы атрымалі вучні ў Боцьках, Кузніцы-Беластоцкай і Страблі.

**Прыехалі госці**

Мерапрыемства пачалося з паўгадзінным спазненнем. Закалот уявіла сама прырода. Пасля доўгіх сухіх і спякотных дзён прарваўся густы дождж. Гаспадары хваляваліся ці новая прасторная школа памесціць шматлікіх гасцей. Сярод знакамітасцяў былі: Яго Блажэнства Васілій, мітрапаліт Варшаўскі і ўсяе Польшчы, паслы Беластоцкай зямлі: Кшыштаф Вольфрам, Мечыслаў Пецка, Станіслаў Малішэўскі, прадстаўнік Міністэрства нацыянальнай адукацыі Багдан Базан, куратар асветы ў Беластоку Тадэуш Калюта, генеральны консул РБ у Беластоку Міхаіл Слямнёў, ваявода Анджэй Гаеўскі, старшыня ГП БГКТ Янка Сычэўскі, дырэктар Беластоцкага тэлебачання Казімеж Пуцілоўскі, войты суседніх гмін, вайскоўцы, выканаўцы пабудовы, мясцовыя радныя і многія жыхары Нараўкі.

**Госці ўзялі слова**

Школьны будынак пасвяцілі мітрапаліт Васілій і ксёндз Юзаф Кавальчук. Першаіерарх Праваслаўнай царквы напомніў усім вучням, каб захавалі сваю чэснасць і ахоўвалі сваё маладое жыццё ад усіх спакушэнняў.

— Przed wami długa i szeroka droga. A Ojczyzna was czeka!

Сваю прамову закончыў словамі паэта — беларускага ксяндза:

*Вучыся, нябожа,*
*Вучэнне паможа*
*Змагацца з нядоляй,*
*З няволяй.*

І ксёндз Юзаф Кавальчук павіншаваў сабраных, і ад імя беластоцкага мітрапаліта ксяндза архібіскупа Станіслава Шымэцкага перадаў гарачыя прывітанні.

— Вашай школай захапляліся найвышэйшыя ўлады краіны — прэзідэнт і прэм'ер-міністр, — адзначыў ваявода Анджэй Гаеўскі, які разам з Аляксандрам Квасьнеўскім і Владзімежам Цімашэвічам два дні раней гасцяваў у Нараўцы. Пажадаў ён гаспадарам „niezgody na przeciętność i zwątpienie".

Слова ўзяў і Янка Сычэўскі, які нагадаў, што ў Нараўцы побач сябе жывуць палякі і беларусы, праваслаўныя і каталікі. Архітэктура школы і чысціня асацыююцца старшыні ГП БГКТ з сучаснай лабараторыяй.

— Chciałbym życzyć, aby ta szkoła była najlepszym laboratorium wzajemnych stosunków między narodowościami białoruską i polską, mieszkańcami wyznania prawosławnego i katolickiego, — сказаў Янка Сычэўскі.

**За чатыры гады**

Новая школа мае і далей за свайго патрона Аляксандра Валкавыцкага, настаўніка беларускай мовы расстралянага ў пасляваенныя гады бандамі.

— Усе нашы настаўнікі былі за тым, каб патронам і надалей астаўся гэты герой, — кажа войт гміны Мікалай Павільч.

У дырэктара Яўгена Валкавыцкага пытаю пра супадзенне прозвішчаў. Аказваецца, патрон школы з'яўляецца братам бацькі сённяшняга дырэктара. Гэтая сувязь дапамагае зразумець вялікае заангажаванне Яўгена Валкавыцкага, пра якога намаганні і змаганне за новую школу ў Нараўцы апавядаюць анекдоты і сенсацыйныя гісторыі. Сама ідэя пабудовы здаўна спадарожнічала тутэйшым жыхарам. Раскінутая на пяць будынкаў старая школа адпіхала цеснатой і непрактычнасцю. Ужо ў 1978 годзе гаварылася пра неабходнасць пабудовы новага асветнага аб'екта. Аднак, толькі пасля пятнаццаці гадоў, думка нараўчанцаў пачала здзяйсняцца.

— Куратар сказаў нам, што калі возмем асвету ў распараджэнне самаўрада, — успамінае Я. Валкавыцкі, — пачнецца пабудова школы. Таму і гміна Нараўка як адна з першых узяла пад свой нагляд асвету.

Пабудова здзейснілася за няцэлыя чатыры гады. Пра размах, прастору напамінаюць лічбы — плошча будынка 3 134 м², кубатура — 16 472 м³. Гаспадары ганарацца таксама тым, што іх школа з'яўляецца аб'ектам спрыяльным натуральнаму асяроддзю.

Зараз у Нараўцы больш за 400 вучняў. З 1 верасня пачне працаваць 16 аддзелаў. Сюды дайшлі дзеткі з ліквідаванай школы ў Лешуках.

— На працягу 5-6 гадоў лік навучэнцаў не паменшыцца, — гаворыць пра дэмаграфію ў гміне М. Павільч.

**На прынцыпах замежнай**

У час інаўгурацыі школьнага года ледзь заметна праяўляліся беларускія акцэнты. Нават калектыў „Душкі з пушкі" амаль поўнасцю спяваў па-польску. Не было б крыўды, калі б былі гэта новыя, падрыхтаваныя для ўрачыстасці песні. Яны, аднак, спявалі па-польску свае старыя песні, за якія у час агляду беларускай песні даставалі найвышэйшыя месцы. „Bo u nas są dwie wersje", — паясняюць. Невялікая колькасць (80) дзяцей ходзіць тут на беларускую мову. Зараз далучаць да іх школьнікі з Лешукоў, якія поўнасцю вывучалі гэты прадмет. Варта згадаць, што беларуская мова ў Нараўцы навучаецца на прынцыпах замежнай. З другога боку добра, што ў Нараўцы не было той крывадушнасці як раней у Кляшчэлях, дзе адкрывалі „чарговую беларускую школу".

* * *

Наслухаўшыся гутарак пра XXI стагоддзе, зрабілася мне неяк сумна. Усе гаварылі адно пра будынак: які сучасны, прасторны, чысты, бліскучы. Ніхто не згадаў, што ў XXI веку тут ацэняць шматкультурнасць малой айчыны. Што не будзе яна нейкім клапатлівым, зацюканым дадаткам. Дарэчы, мода на архітэктуру хутка мяняецца. Каго сёння захапляюць славутыя „тысячагодкі"?

**Ганна Кандрацюк**

*Фота аўтара*



*Асвяціць новую школу прыехаў мітрапаліт Васілій.*

Занатоўкі ўдзельніка II З'езду беларусаў свету

# Беларусь, калі ж ты будзеш дома

***(працяг; пачатак у 34 нумары)***

Чарговыя прамоўцы другога дня з'езду (між іншым Уладзімір Колас, Анатоль Грыцкевіч, Юры Хадыка, Мікола Статкевіч, Аляксей Каўка, Анатоль Лябедзька) моцна ўсхвалялі выступленнямі дэлегатаў з Польшчы (Янка Сычэўскі) і Малдовы, якія ўсхвалялі дыктатарскі рэжым Аляксандра Лукашэнкі. Спадар Лябедзька сказаў: „Калі Лукашэнка і ягоная каманда для вас такія добрыя, дык, калі ласка, прыедзьце сюды і тады пераканаецеся, у якіх абставінах знаходзіцца наша Бацькаўшчына".

Пасля да прэзідыума з'езду падышла дэлегацыя беларускіх татараў. У звароце да ўдзельнікаў з'езду выказалі яны сваю салідарнасць з беларускім народам, з якім на працягу 600 гадоў будуюць і абараняюць супольную Айчыну.

А 13 гадзіне аб'яўлены быў абедзенны перапынак да 14$^{30}$, пасля якога мелі праводзіцца выбары статутных камісій. Заканчэнне II З'езду беларусаў свету намечана было на 18 гадзіну. Карыстаючыся перапынкам значная колькасць дэлегатаў і гасцей падалася не ў рэстаран „Папараць-кветка", але на плошчу Якуба Коласа, дзе Беларускі народны фронт і іншыя дэмакратычныя сілы сабіраліся на патрыятычны мітынг для ўшанавання 7-й гадавіны з дня абвяшчэння незалежнасці Беларусі.

Вуліцы беларускай сталіцы і аўтамабільны транспарт былі запоўнены патокам людзей і проста немагчыма было ўвайсці ў аўтобус ці тралейбус. Прыйшлося мне, старому ўжо чалавеку, гадзіну ісці пехатою ад Тэатра музкамедыі да плошчы Коласа. Здалёк ужо чуваць было воклічы „Жыве Беларусь!", гукі музыкі і спеваў. Ногі пачалі шпарчэй рухацца ўперад. Вось і плошча Якуба Коласа, а на ёй — незлічоная колькасць народу. Над галовамі ўдзельнікаў мітынгу лунала мора бел-чырвона-белых сцягоў, парасонікаў і транспарантаў з надпісамі, якія патрабавалі вярнуць Беларусі суверэнітэт, прэсе свабоду, школам беларускую мову, заклікалі не парушаць правы чалавека. Пасля мітынгу сфармаваліся калоны дэманстрантаў, якія пачалі шэсце ў напрамку Опернага тэатра — да помніка Максіму Багдановічу. Міліцыя ды праваахоўныя службы пачаткова намагаліся накіраваць дэманстрантаў на тратуары, але гэта не ўдалося і шэсце пайшло вуліцай, спыняючы гарадскі транспарт. На чале калоны ішлі музыканты і апранутыя ў народныя ўборы артысты розных менскіх калектываў. Гучэлі песні, моладзь танцавала. Усе перажывалі нейкую незвычайную радасць, ад якой хацелася і цешыцца, і плакаць. Слёзы самі плылі з вачэй. Наглядна відаць, што Беларусь прабуджаецца з векавога рабскага сну. Характэрнае, што сярод дэманстрантаў пераважалі маладыя людзі — ад 16-гадовых юнакоў да сталых людзей саракагадовага ўзросту. А самае галоўнае — амаль паўсюдна чуваць было беларускую мову. Што і раз раздаваліся воклічы „Жыве Беларусь!", „Далоў Луку!", „Луку на муку!", „Беларусь у Еўропу, а Лукашэнку ў ж...!". Можна было пачуць таксама воклічы на польскай мове, напрыклад, „Niech żyje wolna i suwerenna Białoruś!". Гэты воклік паўтараўся некалькі разоў і дэманстранты паміж сабою гаварылі: „Чуеш, гэта палякі. І яны тут разам з намі".

Каля будынка міліцыі дэманстранты паднялі рукі ўверх і крычалі: „Далучайцеся да нас!", „Ганьба лукашэнкаўскім халуям!". Міліцыянеры паводзілі сябе памяркоўна і знаходзіліся ў пэўнай адлегласці ад дэманстрантаў.

Вось гэтак прыйшлося мне асабіста пераадолець тры кіламетры пад помнік Багдановічу ля Опернага тэатра, дзе зноў адбыўся мітынг. Прамаўлялі на ім Станіслаў Шушкевіч, Вінцук Вячорка і шмат іншых дзеячаў. Усе гаварылі аб бязвыхадным становішчы краіны, аб парушэнні правоў чалавека і канстытуцыі ды іншых злачынных дзеяннях каманды Лукашэнкі. У памяці засталося мне выказванне спадара Вячоркі, які сказаў: „У выніку ашуканскага падмана грамадства, ды падтрымцы Масквы да ўлады над нашай краінай дайшла пачвара, але ўжо набліжаецца канец гэтай пачвары. Будзьма насцярожанымі, бо Масква, забіраючы гэту пачвару, будзе старацца накінуць нам другую пачвару. Беларусы, бярэм прыклад з Чачні. Там народ знаходзіўся ў горшых абставінах, але здолеў уласнымі рукамі вызваліцца ад пачвары". На мітынгу сабралося 6—8 тысяч чалавек, але на трыбуне не было гукаўзмацняльнікаў і не ўсюды было чуваць прамоўцаў. Пад канец над дэманстрантамі ўзнёсся паветраны шар з бел-чырвона-белым сцягам. А 17 гадзіне па стане здароўя я быў вымушаны пакінуць мітынг і падацца на кватэру.

Вечарам у тэлеперадачы „Панарама" рускамоўны дыктар заявіў, што „в Театре музкомедии завершился так называемый второй съезд белоруссов мира, на который прибыли бывшие члены профашистских организаций". Ну і вось стала ясна як нас ахрысціла лукашэнкаўская каманда. А як на гэта адрэагаваў той замежны дэлегат, які ў сваім выступленні ўсхваляў пануючую ўладу ў Беларусі? Я ў сваю чаргу хачу ўрачыста заявіць, што ніколі ў сваім жыцці не меў я ніякага дачынення да фашысцкіх арганізацый. Падчас акупацыі быў я ўсяго 16-гадовым юнаком, які хадзіў у беларускую школу. Мяркую, што і іншыя ўдзельнікі з'езду, намнога маладзейшыя за мяне, ніколі не былі ў фашысцкіх арганізацыях.

Цікава, ці нашы дэлегаты з Польшчы будуць пратэставаць супраць такога агіднага акрэслення дэлегатаў II З'езду ЗБС рускамоўным дыктарам лукашэнкаўскага тэлебачання?

Беларусь, калі ж ты будзеш у сябе дома? Мы ж павінны ўрэшце людзьмі звацца, як пісаў калісь наш вялікі Янка Купала.

***(заканчэнне будзе)***

**Юстын Пракаповіч**

Якія мы людзі

# Мячык і шорты

Мой чытач, пэўна, здзівіцца: а што ж супольнага мае мячык з шортамі? Ой, мае, міленькі мой, мае... Так часы змяніліся, што ні збітым мячом, ні вылінялымі чужымі шортамі чалавек не грэбуе...

* * *

У спартыўным асяродку Варшаўскай куратoрыі над возерам Вігры адпачывалі дзве катэгорыі летнікаў: настаўнікі з сем'ямі і маладыя спартсмены. Першыя вудзілі рыбу, плавалі на водных роварах і байдарках, купаліся і загаралі, як толькі паказвалася скупое ў ліпені праменне сонца.

Што датычыць другой катэгорыі адпачываючых — спартсменаў, дык ім было цяжэй. Раніцай — трэніроўка, пасля поўдня — трэніроўка, калі дзе хто пакупаецца — дык і тое добра, бо загараць не было калі. Затое вечарам — дыскатэка! Але што ж, калі а дзесятай трэнер гнаў спаць. Вядома, заўтра ад раніцы ізноў праца.

Ці дзіва, што ў такой мітусні моладзь пакінула на спартыўнай пляцоўцы адзін мяч, якім ігралі ў баскетбол?! Мячоў было ў іх многа, але ж за кожны нехта адказваў. Сёння, брат, у асвеце не падскочыш.

Агледзеўшыся, што мяча няма, дзеці хутка вярнуліся на месца трэніровак, але нідзе яго не знайшлі. Павесіўшы насы, ішлі яны ў сталоўку на абед. Трэнер іх, вядома, па галоўцы не пагладзіў: „Не ведаеце, што грошай на спартыўнае абсталяванне няма?! Пішыце аб'яву, мо нехта знайшоў гэты мяч!"

Дзеці, насупіўшыся, стаялі і слухалі трэнера. Во, добра, што падказаў ім павесіць аб'яву на дзвярах сталоўкі. Напэўна нехта знайшоў мячык і прынясе ім яго. Напісалі: „Хто знайшоў мяч, просьба прынесці яго ў домік нумар..." Гэта во тут, блізенька, амаль побач.

Павесілі дзеці тую аб'яву і адчулі палёгку. Ну, цяпер ужо, калі нехта прынясе гэты мячык, трэнер не будзе чапляцца да іх.

Ідучы на вячэру, людзі спыняліся і чыталі тую аб'яву. Цікавіліся: можа будзе нейкая экскурсія, а мо канцэрт... Прачытаўшы, аднак, пацiскалі плячыма і адыходзілі. Нехта буркнуў: „Ходзяць тут розныя. Нашыя і не нашыя". Людзі ахвотна размаўлялі адзін з другім, бо прыязджалі штогод у гэты асяродак і амаль усе былі знаёмыя. А зрэшты, з аднае ж галіны: настаўнікі, выхаваўцы, пра сённяшнюю моладзь ведалі яны ўсё, значыць, было пра што і пагаварыць. Толькі маладыя спартсмены тут змяняліся.

І так кожны пацiскаў плячыма, і ўжо не было надзеі, што нехта бачыў той мяч, пакінуты на спартыўнай пляцоўцы, калі са сталоўкі, павячэраўшы, выйшлі бацька з сынам гадоў васьмі. Бацька — настаўнік з Варшавы, сына мы памяталі яшчэ з часоў, калі яго вазілі ў калясцы.

Малы пачаў чытаць аб'яву. Доўга складаў літары, відаць, скончыў усяго першы клас, а мо нават „нулявы". „Тата!" — усклікнуў ён усхваляваным голасам, — гэта, бадай, той мячык, які я знайшоў!"

Бачачы гэта, мы ўцешыліся, што нарэшце скончацца клопаты тых маркотных хлопцаў-разяваў, што пакінулі мяч і цяпер яго шукаюць. Мы ўжо нават усталі з лаўкі, каб ісці на возера, як неспадзявана пачулі голас „выхаваўцы": „Маўчы і не аддавай!"

Бацька паўтарыў гэта сыну два разы, каб хаця малы ў сваёй наіўнасці не пабег і не звярнуў уладальнікам гэты мяч.

* * *

Не верачы сваім вушам, мы ішлі з гары да возера. Было ўжо позна, ніхто не загараў і не купаўся. Мы пасядалі на тэрасе, дзе аж да вячэры людзі абліваліся сонцам, паўлежачы ў шэзлонгах.

На адной з лавак валяліся нейкія шорты. Нехта так спяшаўся на вячэру, што не паспеў іх узяць. Убачыць, што няма, дык хутка прыйдзе, меркавалі мы.

Уладальніка шортаў як не было, так не было. Відаць, не заўважыў ён, што згубіў нешта. Інакш бы хутка прыбег. Ат, заўтра забярэ, каму яны патрэбныя...

З гары якраз сыходзіла жанчына з шасцігадовай дачушкай. Відаць было, што кіраваліся яны на возера. Праходзячы побач тэрасы, жанчына кінула на яе вокам і ўбачыла на адной з лавак тыя шорты. Умомант змяніла кірунак і разам з дачкой увайшла на тэрасу. Адразу кінулася да тае лаўкі, дзе ляжала згуба. Схапіла тыя шорты, разгарнула іх, паглядзела, страсянула.

„Мама! Чые гэта?" — запытала яшчэ наіўная дачушка.

„Няважна!" — адказала настаўніца, не саромеючыся нават таго, што мы ўсё гэта бачым і чуем, ды скруціла гэтыя шорты так моцна, каб не было іх відаць у яе далоні. На жаль, не прадбачачы такой знаходкі, яна не ўзяла з сабой ніякай сумачкі.

Шорты, відаць, яшчэ можна было насіць, хаця былі вылінялыя і выглядалі нясвежа.

* * *

Што чалавек чалавеку — воўк, людзі ведалі здаўна. Але ж вось вешалі нават на дрэвах цэнтральных вуліц згубленыя кімсьці шалікі, рукавіцы, дзіцячыя бацінaчкі...

Грош — цана тым „выхаваўцам", якія вучаць дзяцей быць чэснымі, а пры першай нагодзе паказваюць сваю малую подлую душачку. Не на словах, а на такіх прыкладах найбольш вучыцца дзіця, якім яно мае быць чалавекам.

**Ада Чачуга**

Васіль Сакоўскі

# З мінулага маёй сям'і, вёскі і мясцовасці

*(працяг; пачатак у 18 н-ры за 1966 год)*

Гаворачы пра навуку, мы часта чуем цяпер: вось у пасляваенныя гады то было добра і лёгка вучыцца. Хто толькі хацеў, нават і туман, і тупіца мог лёгка закончыць любую сярэднюю і вышэйшую школу...

Дапусцім, што нейкая часціна праўды ў такім сцвярджэнні ёсць. Але колькі ж добрых, сумленных, працавітых і здольных дзяўчат і хлопцаў з нашых вёсак не магло дастацца ў адпаведныя школы тады толькі таму, што бацькі іх не то што былі замажнейшыя, але мелі няшчасце мець крыху больш гектараў ад бядняцкай нормы. І ніхто не наракаў над іх лёсам і тым, што марнаваліся не развіўшыяся іх здольнасці і таленты.

Вельмі перашкаджалі ў навуцы тады таксама вялікія матэрыяльныя нястачы дзяржавы і людзей. Школьныя і інстытуцкія будынкі былі слабенькія і запушчаныя, класы, аўдыторыі і інтэрнаты — моцна перапоўненыя і халодныя. Не хапала падручнікаў, кніг і іншых дапаможнікаў. Не хапала або не было за што купіць адпаведнага адзення, абутку і ежы. Але і такіх матэрыяльна ўбогіх класаў, школ і інстытутаў было замала і далёка не ўсіх дастойных і ахвотных маглі яны прыняць да сябе на навуку. Бо гэта быў час, калі моладзь, якой былі перапоўнены ўсе тадышнія вёскі нашы, пачуўшы, што на іх пакаленне выпадзе шчасце жыць ужо ў калгасных вёсках, адразу і масава кінулася ўцякаць ад такога шчасця ў гарады, у навуку...

Так што не так ужо проста і лёгка было ў той час з навукай.

А цяпер крыху разважанняў на тэму так моцна аплёванай мной калектывізацыі сельскай гаспадаркі.

Сама ідэя калектывізаваць сельскую гаспадарку можа і не ёсць кепская, але калектывізацыя савецкага тыпу, якая ў нас тады ўкаранялася, гэта напэўна страшная рэч. На шчасце праводзілася яна ў нас нядоўга, не надта станоўча і не ва ўсіх вёсках. Але і так успела нарабіць шкод нямала.

Не гаворачы ўжо пра матэрыяльнае і юрыдычнае становішча калгаснікаў, трэба сказаць, што калектывізацыя моцна нішчыла вясковыя традыцыі, міжлюдскія адносіны і вякамі набыты ўклад сельскага жыцця. Сеяла варожасць паміж паасобнымі людзьмі, сем'ямі, найбліжэйшай раднёй і нават паміж людзьмі і жывёлінай, як напрыклад, паміж маёй сям'ёй і нашай кабылай каштанкай.

І так, напрыклад, індывідуальныя не любілі калгаснікаў за тое, што з-за іх згоды пачалі ў іх арганізаваць калгас, бо дзейнічаў тады такі механізм: дзе арганізаваўся калгас, там аўтаматычна яшчэ мацней прыцiскаліся ўсе некалгаснікі. З такім, канешне, разлікам, каб і іх хутчэй загнаць у калгас.

Калгасны палетак выбіралі заўсёды ў найлепшым месцы і на найлепшай зямлі. Калі ў гэтым месцы знаходзілася поле некалгаснікаў, узамен давалі ім дзесьці ў іншым месцы, і канешне ж часцей за ўсё ў горшым і з горшымі грунтамі.

У сваю чаргу калгаснікі варагавалі між сабой даслоўна за ўсё: за тое, што аднаму траплялася лепшая, а другому горшая праца, за якасць і колькасць выкананай працы, за налічванне працадзён, за колькасць і якасць унесенай імі маёмасці ў калгас і выкарыстоўванне калгасам яе, за падзел выпрацаванага прыбытку, за выбар калгаснага начальства і г.д.

Былі таксама і такія, якія актыўна арганізавалі калгас, але самі зусім не думалі быць калгаснікамі. Арганізацыя імі калгаса мела паслужыць ім, і часцей за ўсё паслужыла, у далейшай іх кар'еры.

Усё гэта множыла між людзьмі крыўду, злосць, нянавісць і ў многіх жаданне помсты, бо нашы людзі не дараслі яшчэ тады да такой хрысціянскай дасканаласці, каб падабалася ім паправа ўласнага быту ці рабенне ўласных кар'ер адных коштам другіх.

І калі ў маёй вёсцы канчалася ўсё толькі на сварках, то ў Зубаве жаданне помсты пачало больш канкрэтна матэрыялізавацца. Найчасцей вылівалася яно ў скрытых падпалах. Бадай у ніводнай з нашых вёсак не было столькі пажараў, колькі ў пасляваенным Зубаве. Вёска была, можна сказаць, палаючым факелам. І вінаватых не знаходзілі. Вось што несла з сабой калектывізацыя.

У той час для вёскі выдавалася газета „Gromada", а ў ёй была сталая палоска гумару і сатыры: рысункі і кароткія надпісы пад імі. Галоўным героем гэтай гумарыстычнай палоскі быў нейкі адсталы і някемлівы вясковы тып Мацек Бздура. Дык вось, гэты Бздура задыханы і моцна ўсхваляваны прыбягае аднойчы ў кампанію і пытае: „Co to jest kolchoz?" А яму хтосьці з кампаніі адказвае: „Kołchoz to taki zbój, któremu nawet komendant milicji nic nie radzi". І канешне ж, ніякі гэта не жарт, а самая праўдзівейшая праўда — калгас быў разбойнікам. І не дзіва, што пры першай нагодзе калгасы разляцеліся, рассыпаліся. Разляцеўся і калгас „Новае жыццё" ў Піліпках. Туды яму і дарога.

Прайшло ўжо нямала часу, як няма ў нас калгасаў, але не ўсе яшчэ загоіліся раны, набытыя ў той час...

*(працяг будзе)*

# Казіныя вітаміны

**Ад нейкага часу штораз часцей у вёсках і мястэчках на Падляшшы можна сустрэць людзей, якія трымаюць коз. Калісь былі яны сімвалам убоства, цяпер — здаровага харчавання. Казінае малако больш пажыўнае чым каровінае і рэкамедуецца піць яго дзецям і дарослым, мае лекавыя ўласцівасці. У наш час штораз больш людзей пакутуе алергіяй і часта каровіны бялок выклікае ў іх арганізме алергічныя рэакцыі. Затое бялок у казіным малаку не мае алергенных якасцей.**

— Народная прымаўка кажа, што на пахілае дрэва нават козы скачуць. А ў мяне бывае так, што на пахіленую яблыньку абапіраецца адна каза, а на першую — другая і абедзве скубуць лісце і грызуць яблыкі, — гаворыць **Васіль МІРАНЧУК**, 73-гадовы жыхар Рудутаў, што ў Арлянскай гміне. — Даводзіцца мне трымаць іх на ланцугу, бо гарэзы на платах скачуць. Коз трымаю з 1994 г. і не думаю кідаць гэтага віду жывёлагадоўлі, бо казінае малако апрача пажыўных змяшчае ў сабе таксама лекавыя рэчывы. Першую казу купіў я ў Бельску на рынку. Пасля купляў у адной жанчыны з Гацькоў, яшчэ маленькія, велічыні ката. Сёння мой статак налічвае сем штук. Прадаю коз пачаткоўцам і даю ім практычныя парады наконт гадоўлі. Коз найчасцей купляюць людзі, якім патрэбнае казінае малако з-за яго лекавых якасцей.

Каза пасля пяці месяцаў цяжарнасці прыводзіць двое-трое казлянят. Найлепшы перыяд для расплоду — палова кастрычніка — пачатак сакавіка. Козы з'ядаюць амаль усё пустазелле — асот, чарнобыль, лапух, хрэн, смакуе ім сланечнік, лісце дрэў, але не любяць крапівы.

Я сам даю коз і так яны да гэтага прызвычаіліся, што да гэтага занятку не дапускаюць маёй жонкі. Некаторыя смяюцца ды гавораць, што казінае малако смярдзіць казою. А я пытаю іх, ці каровінае пахне кароваю. Дарослая каза дае ад аднаго трох літраў малака. Даіць трэба два або тры разы ў дзень. Казінае малако даражэйшае за каровінае і штораз больш яго шукаюць для малых дзяцей, бо яно па свайму саставу падобнае на жаночае малако — яно худое, няма ў ім смятаны.

У нашай сям'і казінае малако п'юць усе — дзеці і ўнукі таксама. У Рудутах усе ведаюць, што яно змяшчае ў сабе карысныя для здароўя элементы. Мая жонка Марфа дзесяць гадоў хварэла на страўнік, а цяпер здаровай стала. І мужчынам яно не шкодзіць. Наадварот, казінае малако часам нашу сваім суседзям.

**Міхал Мінцэвіч**

# Парнасік

## Беларусь — мая Радзіма

Беларусь — мая Радзіма,
Беларусь — мая Айчына,
Я з табою развітаўся,
Больш ніколі не спаткаўся.

Хваля вайны адарвала,
На хрыбце сваім пагнала
І загнала аж за мора,
Каб ня бачыў бяды, гора.

Час вайны — перажываннi
Па вайне — неспадзяваннi,
Замест міру і спакою,
Кроў цякла яшчэ ракою.

Турмы, лагеры і здрада,
Мудрай партыі улада,
Рэй вялі тут камуністы,
Брудных спраў спецыялісты.

Прыйшла на іх свая пара,
Як тая ясная зара,
І паў камуны бастыён,
Дзе схаваўся іх легіён.

Дэмакратыя паўстала,
А камуна ўсцяж не спала,
Яе лідэраў прамовы
Катам падняля галовы.

Да улады прыйшла кліка,
А работа ў ёй вяліка,
Хоча стварыць стары саюз,
Дзе замест права — гвалт, прымус.

Беларусь зноў у няволі
Супраць свае добрай волі,
Ёй кіруюць рэнегаты
І наехаўшыя гады.

Рэнегаты поўны здрады,
Выдаюць свае загады,
Бачаць у Маскве збаўленне —
Іхняе задавальненне.

Падпісалі кару смерці,
Беларусь, каб з карты сцерці,
Урачыста адзначалі
І прамоў не шкадавалі.

Лукашэнка піў гарэлку
За сваю прадажну „сделку”
Блаславіў на свае „круги”
Патрыярх Алексій Другі.

Гісторыя не прабачыць,
Прыйдзе час, народ убачыць,
Што рабілі „патрыёты”,
Гандляры Іскарыёты.

Беларусь — мая Айчына,
Што за народ, за краіна?
Што ня хоча жыць свабодна,
Лезе у ярмо лагодна.

Праз стагоддзі ты стагнала,
Цябе ўсяка чэрнь таптала,
Тваю годнасць зняважала,
Яшчэ табе гэта мала?

Прабудзіся ты, народзе
І скажы сам сабе — годзе!
Беларусь не Масквы справа,
Хай жыве свая дзяржава!

*Лондан, красавік 1996 г.*

**Ю. В-скі**

## Помні

Помні, мой сыночак,
Мусіш гэта знаці,
Як будуць выбары,
То ідзі галасаваці.
Трэба нам трудзіцца
Ды сваё даказаці,
Што паслы-беларусы
Мусяць у Сейме засядаці.
За нашу культуру
Ім трэба змагацца
І роднага слова,
Каб не забывацца.
На Яўгена Вапу
Трэба голас даці —
Ён сапраўды будзе
Нас усіх абараняці.
Выйшаў ён з народа
З гайнаўскае вёскі,
Будзе ён змагацца
За нашыя троскі.
За „Сцяну ўсходнюю”,
Каб яна не пусташэла
І каб у нас на полі
Не расло пустазелле.
Каб зямелькай нашай
Стаў кожны ганарыцца,
Ды стварыць па вёсках
Месцы для турыстаў.

**Мікалай Лук'янюк**

## Жывёла і скаціна

Жывёла застаецца жывёлай
І ходзіць сваёй сцежкай-дарогай.
Жывёлу да культуры не давядзеш;
Сам скарэй прападзеш.
Яна ўсюды можа нагадзіць
І немагчыма нам з гэтым парадзіць,
Бо жывёла мае розум кароткі,
Не горкі і не салодкі.
Найгорш, калі жывёла наравістая
і б'ецца,
Тады нам яе прадаваць прыйдзецца.
І лепш назаўсёды пазбыцца д'ябла,
Каб наша напружанасць аслабла.
Найгорш, калі чалавек мае
жывёліны норавы,
Падобныя, як у вала ці каровы.
Немагчыма з ім гаварыць,
Бо ён дурніцу як ваду стане ліць;
Толькі сораму набярэшся,
А праўды ад яго не даб'ешся.
Найлепш такога чалавека мінаваць
І на яго дурніцы не зважаць.
Што ж, быдла ў цырк не надаецца,
Толькі на рынку з рук у рукі
прадаецца
І дае нам матэрыяльную карысць,
І цярпіць, калі яму нешта баліць.
А чалавек-скаціна дурнейшы
ад вала
І не падыходзь да яго без кала.

**Мікалай Панфілюк**

## У грыбах

Устаем рана і хутчэй:
Ножык, торбачка ці кошык у руку.
Бягом у хвайнякі — там усё наша!
Мілы шум векавых дрэў. Птушкі.
Прэч ад нас увесь сум!
Баравік! Краснюк, які стройны —
Спадар у чырвоным жупане.
Лісічка-жоўтае куранятка.
Галубок, бабка, сыраежка,
Маслюк... Што крок — грыбок.
Поўныя ўжо кошыкі і торбы,
А паляваць яшчэ хочацца...

**Аўрора**

## Лёс у іх адзін

Катынь і Хатынь,
дзве розныя назвы,
а лёс у іх адзін.
Загінулі ў іх
ні ў чым нявінныя людзі
ад рук крывавых катаў.
Адных закапалі ў зямлю,
другіх жывымі спалілі ў хатах,
трэціх закатавалі ў Курапатах...
Фюрэры Гітлер і Сталін
вучыліся адзін у аднаго.
Вось давялі да чаго!
Яны заслужылі праклён патомкаў —
беларусаў, палякаў, габрэяў,
цыганоў
ды іншых народаў,
згубіўшых жыццё з рук паганых,
мільёнаў знаных і нязнаных.
Яны вайну пачыналі,
Людзей за сваю ўладу
на смерць пасылалі.
Праклён ім на цэлым свеце
на нашай зямной планеце.

**Сымон Шаўцоў**
**(Аўстралія)**

## Жыць

Ці хочаш ты жыць?
На зямлі прабыць
І ў небе свяціць?
Як ты чытаеш,
Што не разумееш?
Як ты слухаеш,
Што не чуеш?
Як глядзіш,
Што не бачыш? —
Што ёсць добрае?
Ды й сябе не любіш:
Труціш і сам губіш.
Ты! Разумны чалавеча,
Зачні нанова жыць,
Сябе шанаваць
І іншых любіць,
Сярод цёмнай ночы
Як свяча свяціць.

**Іда Кавалевіч**

# Крыжаванка




**Гарызантальна:** 4. ліст, 7. штат з Фініксам, 8. голас каня, 9. ярка-зялёны мінерал, 10. сшытак для фатаграфій, 14. супрацоўнік Чэка, 18. септычная вадкасць, 19. Франсіска, іспанскі канкістадор (1471—1541), 20. салдат бранятанкавых войск, 21. статак.

**Вертыкальна:** 1. змагаўся супраць савецкай улады ў Сярэдняй Азіі, 2. ручны інструмент для прабівання дзірак у скуры, 3. Хорхе, аргенцінскі пісьменнік (1899—1986), 4. школьная мэбля, 5. сплаў жалеза з вугалем, 6. Мэрлін, амерыканская актрыса (1926—62), 11. праліўны дождж, 12. гаручая вадкасць, 13. міжземнаморская дзяржава, 15. выспа між Атыкай і Аргалідай, 16. суседка грэчаскай выспы Кефалініі, 17. затрата. **(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 30 нумара**

**Гарызантальна:** квас, Мадач, Ітуруп, Ясір, тарыф, эвенкі, Чарлстан, баран, карканне, Балтымар, лаўра, вадаспад, Кумана, канва, кран, Струма, выява, рэха.

**Вертыкальна:** Сахама, дабыча, Васілька, Сірэт, Шумен, бурка, Фаншыпан, ваўкалак, баба, Рыла, гнеў, веча, Арыстарх, адажыо, Рувуву, лухта, Вадуц, Дакар.

Кніжную ўзнагароду высылаем **Аляксандру Дабчынскаму** з Беластока.

# ВЕР — НЕ ВЕР

Астроне! Паехаў я сёлета на адпачынак на Мазуры. Варункі не сказаць, каб кепскія былі, але сны — не дай Божа! Усе нейкія неверагодныя — як адзін.

Вось сніцца мне, напрыклад, быццам я знаходжуся ў нейкім даволі вялікім памяшканні, у якім пасярэдзіне стаіць... паравоз. Вялізны, чорны. Паравоз займае амаль цэлы пакой. Трубы яго шырачэзныя. Я стаю каля гэтага паравоза і што раблю? Палашчу ў гэтых трубах... макарону. А Божа мой! Спачатку гэта была макарона-ніткі, а пасля — зусім дробненькая, у звёздачкі. Выпаласкаў я яе ў вадзе (навошта — не ведаю) і выняў яе.

А пасля прыснілася мне, што я знаходжуся ў нейкім агародчыку. Там стаіць тэлефон-аўтамат. Я званю кудысьці. Так я званю, размаўляю. Раптам бачу: што ж гэта такое? Тэлефон паламаўся, а я ў руках трымаю тэлефонную трубку і кавалак провада. Я гляджу, а той кавалак провада, што застаўся ля аўтамата, гэта ўжо не провад, а нейкая трубка. І з гэтай трубкі выходзіць газ — аж сычыць.

Даражэнькі Астроне! Мо я б меркаваў, што гэтыя сны былі звязаны з тым, што я спаў на новым месяцы, а мне там звычайна кепска сніцца, калі б...

... праз пару дзён у наш асяродак не заехала пераначаваць на адну ноч трое маладых людзей з паводкі, якія ехалі далей, у Латвію. Пакінулі яны адкручаны газ на кухні. Калі мая суседка ўвайшла туды, там не было чым дыхаць. Дзякуй Богу, што яна не запаліла запалкі. Яна паклікала кіраўніка, доўга ветрыла кухню. Наш будынак з гэтага ўсяго мог бы лёгка вылецець у паветра. А як ты мяркуеш, Астроне?

**Сярожа**

Сярожа! Можа, і новае месца тут паўплывала, што сны былі такія дзіўныя але не пасмею запярэчыць, што ты належыш да людзей, якія маюць прарочыя сны.

**Астрон**


# Ніва

**„Niwa”**, ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok, skr. poczt. 149, tel./fax 435-022.

Druk: „ORTHDRUK”, Białystok, ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі). Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”. Старшыня Праграмнай рады: Валянцін Сельвясюк.

**Prenumerata:**

1. Termin wpłat na prenumeratę na I kwartał 1998 r. upływa 5 grudnia 1997 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch” na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na I kwartał 1988 r. wynosi 13 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,90 zł, a kwartalnie — 24,70 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa”, Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# Ніўка

## Чатырохрадкоўі

Хто цягне воз жыцця — жадае
Сабе і іншым каравая.
Хто ўпрахалостку побач мчыць —
Той пра ўраўнілаўку крычыць

**Алесь Пісарык**

## Думкі падчас мігрэні

* Пераскочыў цераз плот Валэнса і камуна ўпала, скочыў Квасьнеўскі і Валэнса ляжыць.

* Чым больш пра Лукашэнку, тым вялікшы шанц выбраць чалавекам года Яновіча.

* Хто паспрабаваў зямнога раю, таму пекла не страшнае.

* Час бяжыць таму, што зямля круціцца.

* Схлусіў філосаф кажучы: „Ведаю, што нічога не ведаю". Калі ведаў, што нічога не ведае, то ўсё ж такі нешта ведаў.

**Пётр Байко**




*Чатырохрадкоўе і мантаж Аляксандра [illegible]*

## „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

— Чаму беластачане ходзяць зімою ў белых галёшах?

— Каб не пакідаць слядоў на снезе.

* * *

— Наш дырэктар з'яўляецца выдатным аналітыкам. Перад кожным рашэннем скрупулёзна ўзважвае ўсе „за" і „супраць". Калі толькі магчыма, карыстаецца самай сучаснай тэхнікай — праводзіць камп'ютэрныя сімуляцыі планаваных рашэнняў. І пасля ўсяго гэтага яшчэ кідае манету і глядзіць што выпала: арол ці рэшка.

* * *

Поезд крануўся. Муж рыхтуецца драмаць, але жонка чагосьці круціцца.

— Нечага табе, дарагая, бракуе?

— Вось каб тут было наша піяніна...

— Ашалела ты!? Навошта ў купэ піяніна?

— Прыдалося б. Я пакінула на ім білеты.

* * *

Двух шатландцаў закончыла ігру ў настольны тэніс. Змарыліся, ледзь трымаюцца на нагах. Іх сябры, англічане, дзівуюцца:

— Не ведалі мы, што пінг-понг такі цяжкі...

— А ці прабавалі вы іграць адною ракеткай?

* * *

Дзве маладыя французскія турысткі захапляюцца Шатландыяй. На беразе возера Лох-Нес убачылі шатландца. Раптоўны парыў ветру падараваў яму ўверх спадніцу. Адна з францужанак пабляднела, прытулілася да другое:

— Дамініка! Я бачыла пачвару, — вышаптала.

* * *

Адзін варшавяк паехаў у горы ў водпуск, ды пасля некалькіх дзён памёр. Цела прывезлі ў сталіцу. Адна з госцяў на паховінах шэпча жонцы нябожчыка:

— Як ён молада і прыгожа выглядае.

— Так. Гэтыя некалькі дзён у гарах вельмі добра яму зрабілі.

## Сашчэпачкі

— Доктар, — Буцюгін сарамліва мяўся, — разумееце, доктар, такая справа...

— Слухаю-слухаю, — паглядваючы на гадзіннік і з жахам думаючы аб натоўпе пацыентаў за дзвярыма, прыспешвала ўрач.

— Разумееце, доктар, — Буцюгін рынуўся як у ледзяную ваду. — Усіх жанчын, якіх бачу, я... хачу! Усіх!

— Усіх? — захапленне засвяцілася ў вачах маладой і спакуслівай медычкі.

— І не адзін раз, — панік Буцюгін. — Я стрымліваюся, але... цяжка.

— Пасядзіце хвілiначку, — выбягаючы з кабінета, ускрыкнула ўрач.

Вярнулася яна хутка, але з калегай жаночага полу.

— Вось вашы сашчэпачкі, — падала яна каробку сашчэпак сваёй калезе, якая вывучала Буцюгіна. Нарэшце, яна выпхнула яе за парог і, з пяшчотнасцю паглядзеўшы на Буцюгіна, папрасіла:

— Працягвайце, калі ласка!

— Дык, вось, доктар... — пачаў Буцюгін.

Але сёння ў паліклініцы яўна быў попыт на сашчэпачкі — адна за другой у кабінет заходзілі ўрачы, медсёстры, санітаркі, ліфцёршы, вахцёршы і прадаўшчыцы з суседняга універсама.

Апавешчаныя райздравам, за сашчэпкамі заехалі тры прадстаўніцы міністэрства і адна, яўна блізкі паплечнік міністра, павярцеўшы сашчэпкі ў руцэ, кінула ў прастору:

— Манія велічы... Быў такі выпадак у Гіпакрата...

— Можа таблеткі якія? — спытаў Буцюгін, як толькі застаўся з урачом адзін на адзін.

— Ні ў якім разе! — спалохана ўскрыкнула доктар, але тут у кабінет уварваўся прафесар з яўна XVIII стагоддзя:

— Калега, атрымайце сашчэпачкі ў галоўурача! — усклікнуў ён і пасля традыцыйнага „тэ-экс!", спытаў:

— На што скардзіцеся?

— Прафесар, — аблегчана залапатаў Буцюгін. — Кожную жанчыну, якая праходзіць міма, хачу! Больш няма цярпець сіл!

— Гарчычнікі не дапамогуць, — задумліва сказаў прафесар.

Пасля невялікай паўзы ён пацікавіўся:

— Слабіцельнае спрабавалі? А халодныя ванны!

Улавіўшы нямую адмову, прафесар знаходліва прапаноўваў:

— А калі разгружаць вагоны?

— Дзе ж столькі вагонаў узяць?! — адказаў Буцюгін. — Я ўжо і ў гарады выязджаў...

— А да ветэрынара не звярталіся? — чамусьці разглаваўся прафесар.

— Здзівіліся, што гэта магчыма пры нашым харчаванні, — адмахнуўся Буцюгін.

— Тэ-экс! — прафесар пабарабаніў па стале і, напісаўшы на медкарце „хірург", паставіў вялікі пытальнік.

— Вы жанаты, — раптам пацікавіўся ён.

— Жонка, — адзіная жанчына, пры выглядзе каторай я засынаю, — уздыхнуў Буцюгін.

А прафесар заблішчэў унітазам:

— Ну, галубчык, з вамі ўсё зразумела. Папіце дымедрол, валяр'янку, снатворнае... Яшчэ каплі ў вочы, каб лепш бачыць, а калі не дапаможа, — прафесар пасуравеў, — накіруем да спецыяліста! — і падкрэсліў слова „хірург"...

**Амір Даутаў**

*З рускай пераклаў Валерый Бабей*

## Сардэчныя ТАЙНЫ

Дарагое Сэрцайка! Я вельмі расчаравалася сваімі бацькамі.

Як той дурань, вярнуўшыся з летняга адпачынку, я расказала ім пра свае прыгоды ў лагеры. Я думала, што так і трэба: дзяліцца сваімі поспехамі і няўдачамі перш за ўсё з бацькамі. Яны — найлепшыя прыяцелі, паўтаралі яны мне заўсёды, ніколі табе не здрадзяць, папярэдзяць цябе перад няшчасцем, пададуць руку ў бядзе. А галоўнае, патрапяць цешыцца, як ніхто, разам з табою ў радасці.

А як жа мне было не расказаць маме, што я першы раз у жыцці закахалася, ды так моцна, што аб нічым іншым і думаць не магу! Усё, быццам было толькі што, стаіць перад вачыма: і наша сустрэча, і доўгія вячэрнія шпацыры над морам, першыя абдымкі і той пацалунак на развітанне.

Мушу табе прызнацца, што, хаця мне ўжо 15 гадоў, я яшчэ з ніякім хлопцам не цалавалася. Ён быў першы.

Але што ж, калі лёс бывае такі суровы. Скончыўся лагер, і ўсе раз'ехаліся па хатах.

Мой хлопец жыве ў супрацьлеглым канцы Польшчы. Мне да яго 750 кіламетраў. Развітваючыся, ён мне прызнаўся, што ўпершыню так яго „ўзяло", што дагэтуль да ніводнай дзяўчыны не адчуваў нічога падобнага, што не ўяўляе, як зможа жыць без мяне. Абяцаў, што будзе мне пісаць і будзем сустракацца, а на будучы год паедзем разам у лагер.

Я адразу крыху сумнявалася ў рэальнасці ўсяго гэтага. Яму ж таксама ўсяго 15 гадоў. Хто яму будзе даваць грошы на цягнік?! Ды і наогул ці дазволяць яму бацькі на такія паездкі. На жаль, у нашым узросце чалавек яшчэ нічога не можа рашаць сам за сябе.

Вярнуўшыся дахаты, я нават разважала, ці не сесці ў цягнік, „трымаючы ў руцэ зялёны камень", бо можа б тады кандуктар не заўважыў, што ў мяне няма білета. Я б не магла сказаць бацькам, што хачу паехаць да хлопца, і папрасіць у іх грошы на білет.

Але пакуль што я чакала нейкай весткі ад майго каханага. А вестак як не было, так не было. Я хадзіла паўпрытомная. Успамінала, як было ў лагеры — кожную дробязь, кожнае яго слова, жэст. Жаль яшчэ больш прыбіваў мяне, бо як жа ён так мог: наабяцаць і не даць знаку аб сабе столькі часу.

Пачалася школа — у гэтым годзе ўжо ліцэй, — а я не магла на нічым сканцэнтравацца. Сядзела на першых уроках і адно думала пра тое, якія ўсе хлопцы ашуканцы. А сэрца аблівалася крывёю. Я так цешылася, што нарэшце і я закахалася. У сяброваk даўно ўжо былі хлопцы, а некаторыя з іх нават змянялі хлопцаў ужо не адзін раз. А я мусіла закахацца ў такога...

Можа, такія думкі свідравалі б мяне яшчэ доўга, калі б...

Мама якраз купалася ў лазенцы, калі я выходзіла ў школу. Мне трэба было прынесці грошы на нейкі падручнік, і я праз дзверы запыталася ў мамы, ці можа яна выйсці на момант і мне гэтыя грошы даць. А мама сказала, каб я сабе ўзяла грошы ў яе сумачцы. Я ў мамінай сумцы ніколі не грабуся, але сёння мусіла: там было ўсяго столькі, што я паадкрывала ўсе ўнутраныя кішэні, каб знайсці грошы. У адной з кішэняў я ўбачыла... тры лісты ад майго хлопца, адрасаваныя, вядома, мне. Былі яны прысланы неўзабаве пасля таго, як мы вярнуліся з лагера. Пасля, відаць, хлопец рашыў, што я не хачу з ім перапісвацца і наогул утрымліваць кантакты.

Мне зрабілася горача. Я кінулася да мамы. Ці ты падумала, кажу я, што я таксама маю нейкі гонар? Ці ты хацела, каб я страціла давер да ўсіх хлопцаў? А ці магу я цяпер верыць сваім бацькам?!

Мама толькі адказала: „Гэта ўсё для твайго дабра!"

Не ведаю, ці бацькі зразумелі, што тварыцца ў маёй душы. Вядома, я напішу свайму хлопцу, але скажы, што мне напісаць: што яго лісты я знайшла ў сумачцы мамы?

Я страціла давер да сваіх бацькоў.

**Івонка**

Івонка! Бацькі табе, няма сумнення, жадаюць толькі дабра. Можа, зрабілі гэта не зусім разумна, бо ліст цябе не ўкусіў бы. Усё ж такі некалі трэба пачаць і эратычнае жыццё.

Аднак, яны думалі так: будзе перапісвацца, будзе — замест вучыцца — думаць пра каханне, пра хлопца. Яшчэ наробіць глупстваў (сама ж ты гаварыла, што думала пра падарожжа цягніком без білета). Мае яна яшчэ час на ўсё гэта!

Так што ты павінна зразумець і бацькоў, яны табе — не ворагі, хаця табе магло так у нейкім моманце здавацца.

Хлопцу, калі будзеш пісаць, скажы, што не было цябе ў горадзе, бо ты была ў бабулі.

**Сэрцайка**